6 жніўня 2021 | № 30 (738)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Апошняя вандроўка Ганны Доўгерт
стар. 10-11



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Доўгая дарога да Беларусі

**Год таму ў нумары, які выходзіў якраз напярэдадні выбараў, аўтары «Новага Часу» паспрабавалі зазірнуць наперад і напісаць, якой яны бачаць бліжэйшую будучыню. Не буду пераказваць усё, што там было напісана, скажу толькі, што мы самі здзівіліся, наколькі былі блізкія да рэчаіснасці. Таму ў працяг — прапануем вам падсумаванні года пасля выбраў і прагнозы ад «Новага Часу».**

Год таму мы нават уявіць сабе не маглі, што пабачым мора людское з нацыянальнымі сцягамі, што беларуская мова стане ледзь не паролем для сумленных людзей, што нашы дзеці будуць за кратамі ці ў вымушанай эміграцыі. Што сусед-міліцыянер будзе хаваць вочы і не вітацца, а суседка-бабулечка будзе са сваёй пенсіі адпраўляць бандэролі палітвязням. Мы столькі ўсяго даведаліся за гэты год пра сябе, сваіх сяброў, родных, суседзяў, калегаў.

І менавіта гэтыя веды дадаюць мне аптымізму. За гэты год наша грамадства выгадавалася і пачало сталець. Інфантылізм і спадзяванні на дзяржаву сыходзяць, застаецца вера ва ўласныя сілы і адказныя дарослыя ўчынкі. А гэта значыць, што менавіта ў нас ёсць унікальны шанс стаць прыкладам для ўсёй Еўропы. Прыкладам адказнага стаўлення да свайго лёсу і лёсу сваёй краіны, прыкладам унікальнай салідарнасці і грамадскай эмпатыі. Прыкладам неймавернага рыўку ў развіцці эканомікі і карпаратыўнага грамадзянства.

Я аптыміст, а не ідэаліст, таму разумею, што далёка не ўсё грамадства пасталела і гатовае да пераменаў (хаця ніколі масы не былі рухавіком прагрэсу). Разумею, што «светлую будучыню» не пабудаваць у адзін момант. Што ўсё мае свой кошт, які ў любым выпадку давядзецца заплаціць.

Але мы ўжо сталі на дарогу, зрабілі першыя крокі. Мы пачалі свой шлях па доўгай дарозе да Беларусі. Той самай Беларусі, пра якую марылі нашы продкі, за якую аддавалі свае жыцці героі тых часоў і нашай сучаснасці. Той самай краіны-мары, за якую сёння за кратамі пакутуюць тысячы лепшых сыноў і дачок.

Жыве Беларусь! Жыве вольная, незалежная, дэмакратычная найлепшая краіна ў свеце!

**Аксана Колб**

### «Нішто не спыніць ідэю, час якой надышоў»

Сведчанне гэтаму бачым увесь год — у распаўзанні па швах іржавай сістэмы, у яе істэрычных памылках. На жаль, і ў тэроры. Тэроры, які сцішае публічныя галасы, наводзіць жах, сее гора — але не можа змяніць утрыманне галоваў, не можа павярнуць людзей да спакойнага жыцця ў зоне камфорту соннай хлусні. Грамадства прачнулася, заварушылася. Магчыма, тая ідэя, якая выцісне дыктатуру на сметнік гісторыі, яшчэ дасюль не сфарміраваная, не ўсвядомленая, не выпрацаваная. Мы адчуваем яе інтуітыўна, яна выспявае ў нашай салідарнасці, нашым адчаі, нашым супраціве.

Але пікеты, страйкі, «выбары», петыцыі, тэлеграм-каналы, спадзяванні на палітычных лідараў, санкцыі — гэта яшчэ не ідэя. Гэта толькі інтуітыўны пошук таго, што яшчэ нараджаецца, праз нейкія формы дзеяння — часам наіўныя, часам няўдалыя, часам ашаламляльна крутыя.

Варта ўсвядоміць, што не існуе «срэбнай кулі» — нейкага дзеяння, структуры або лідара, якія маглі б у адно імгненне вырашыць праблему дыктатуры. Дыктатура згубіць шанцы на існаванне толькі тады, калі грамадства згуртуецца вакол новых каштоўнасцяў і мэтаў, важных для кожнага, не сумяшчальных з аўтарытарызмам, і пачне самаарганізоўвацца дзеля ўвасаблення гэтых мэтаў і каштоўнасцяў на ўсіх узроўнях жыцця — насуперак тэрору і ўціску.

Фарміраванне агульнаграмадскіх каштоўнасцяў і мэтаў, вышэйшых за палітычную кан'юнктуру і кампанейшчыну, — тое, да чаго хацелася б нарэшце прыйсці. Выспяванне такой ідэі — гэта натуральны працэс, але яго зацягванне мае свой кошт — умацаванне карнага апарату, змарнаваныя гады чалавечых жыццяў, перакуленыя лёсы, людское гора.

Першы год у школе грамадскага жыцця скончаны. Базавыя іспыты здадзеныя — не без хібаў, але з гонарам. Ды наперадзе яшчэ вялікі шлях. Мы мусім яго прайсці разам, дзеля адно аднаго і дзеля нашых дзяцей.

**Глеб Рубанаў**

### Жах і надзея

Многія з нас чакалі, што пасля выбараў у нашай шматпакутнай краіне нарэшце нешта зменіцца ў лепшы бок. Асабліва калі на вуліцы па ўсёй краіне выйшлі сотні тысяч нязгодных з афіцыйнымі вынікамі галасавання людзей, падавалася, што перамога здаровага сэнсу і справядлівасці вось-вось стане рэальнасцю. Але не стала...

Улада скарыстала ўсю сваю, назапашаную за больш як чвэрць стагоддзя антыдэмакратыі, моц, каб утрымацца. Дзясяткі тысяч арыштаваных, тысячы асуджаных па самых розных артыкулах Крымінальнага і Адміністрацыйнага кодэксаў, безліч звальненняў з працы і выключэнняў з ВНУ, нечалавечая жорсткасць і катаванні людзей пры арыштах і за кратамі, больш за 600 палітвязняў, павальнае закрыццё грамадскіх і дабрачынных арганізацый і аб'яднанняў.

Працяг на стар. 4 »

# Тыдзень насычаны падзеямі

**Беларускія падзеі — зноў на першых старонках сусветных медыя. Чым жыла краіна цягам тыдня і што стала прычынай такой увагі — у нашым дайджэсце.**



## Кіберпартызаны

У Беларусі актывізаваліся «кібер-партызаны». Так, за тыдзень стала вядома прынамсі пра тры «дыверсіі». Адна з хакерскіх груповак абвясціла пра ўзлом аўтаматызаванай інфармацыйнай сістэмы «Пашпарт». У пацвярджэнне былі апублікаваныя пашпартныя звесткі былога прэзідэнта Кыргызстана Курманбека Бакіева, які ўцёк у Беларусь, старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай, старшыні Савета Рэспублікі Наталлі Качанавай, кіраўніка КДБ Івана Цэрцеля і іншых персон.

Хакеры сцвярджаюць, што нібыта атрымалі доступ да персанальных звестак кіраўніцтва сілавых структур, людзей з блізкага атачэння Лукашэнкі, супрацоўнікаў КДБ, агентуры і рэзідэнтуры ў ЕС.

Частка інфармацыі будзе апублікаваная. Таксама «кібер-партызаны» заявілі пра ўзлом сервера, на якім захоўваюцца відэазапісы аператыўных дронаў МУС. Сярод апублікаваных хакерамі відэа — адна з акцый на праспекце Пераможцаў у Мінску летась. Сцвярджаецца, што ўзламаная таксама сістэма відэаназірання ІЧУ на Акрэсціна.

## Сустрэчы

Прэзідэнт ЗША Джо Байдэн сустрэўся са Святланай Ціханоўскай. Сустрэча адбылася 28 ліпеня і працягвалася каля 10–15 хвілін. Ціханоўская наведала ЗША па афіцыйным запрашэнні Дзяржаўдэпартамента.

Лідарка беларускай апазіцыі ўжо правяла перамовы з высокапастаўленымі прадстаўнікамі адміністрацыі ЗША, кангрэсменамі і сенатарамі. 19 ліпеня яна сустрэлася з дзяржсакратаром ЗША Энтані Блінкенам, яго намесніцай Вікторыяй Нуланд і дарадцам Дзяржаўдэпартамента ЗША Дэрэкам Шоле. А 30 ліпеня Святлана Ціханоўская сустрэлася з 66-м дзяржсакратаром ЗША — Кандалізай Райс. Сустрэча доўжылася 45 хвілін. Паведамляецца, што было абмеркавана, як можна падтрымліваць беларусаў унутры краіны. Таксама размаўлялі пра тое, як наладжваць адносіны з новымі партнёрамі.

Пасля ЗША Ціханоўская накіравалася з працоўным візітам у Вялікабрытанію.

## Суды, затрыманні, палітвязні

У Мінску 30 ліпеня затрымалі блогерку Насту Пілюгіну, вядоўцу падкасту dzigital. Каля 11-й Наста выйшла з дому да машыны, якая стаяла ў двары, па ноўтбук — і знікла. З дапамогай праграмы «лакатар» на айпадзе яе хлопец, Уладзіслаў Піртань, убачыў, што яна недзе на завулку Казлова (там знаходзіцца Упраўленне КДБ па Мінску). Пасля 17 гадзін дня Наста патэлефанавала свайму хлопцу і сказала, што едзе дадому. Але да іх дадому прыйшлі сілавікі зператрусам. Пасля гэтага Уладзіслаў стаў недасяжны. Ператрус адбываўся да вечара, пасля чаго зноў затрымалі Анастасію і Піртаня. На наступны дзень іх асудзілі.

У Гомелі двума гадамі «хіміі» пакаралі 49-гадовага Юрыя Вершука, якога абвінавацілі ў публічнай абразе прадстаўніка ўлады (арт. 369 Крымінальнага кодэкса). Гаворка ішла пра каментар, які гамяльчук пакінуў пад ролікам на Youtube. Відэазапіс быў прысвечаны сустрэчы 16 жніўня 2020 года старшыні аблвыканкама Генадзя Салаўя з жыхарамі Гомеля. На судзе Вяршук прызнаў віну цалкам. Ён растлумачыў, што ў ліпені 2020 года ў яго памерла маці, потым былі праблемы на працы, і праз гэта ён быў падаўлены, зайшоў на Youtube, «каб неяк адцягнуцца і супакоіцца». Гамяльчук заявіў, што на выбарах галасаваў за Лукашэнку і палітыкай не цікавіцца. Раней за абразу Салаўя — таксама за каментар пад гэтым жа ролікам, — атрымаў тры гады «хіміі» музыка Уладзіслаў Наважылаў, больш вядомы як лідар культавага метал-гурта «Gods Tower» Lesley Knife.

У Беларусі ўжо больш за 600 чалавек прызнаныя палітычнымі вязнямі. Гэта гістарычны максімум за час незалежнасці нашай краіны. Пры гэтым праваабаронцы зазначаюць, што не ўсе арыштаваныя і асуджаныя за пратэсты супраць фальсіфікацыі выбараў і гвалту сілавікоў атрымалі статус палітычных зняволеных. Так, прэс-служба Следчага камітэта паведаміла, што са жніўня 2020 года распачалі 4691 «пратэставу» крымінальную справу.

Палітвязням, дырэктару і юрысту «Офіса па правах людзей з інваліднасцю» Сяргею Драздоўскаму і Алегу Граблеўскаму змянілі меру стрымання: яны вызваленыя з-пад арышту пад паручальніцтва. Следства ў дачыненні да абодвух працягваецца. Пра затрыманне прадстаўнікоў асветніцкай праваабарончай установы «Офіс па правах людзей з інваліднасцю», дырэктара Сяргея Драздоўскага і юрыста Алега Граблеўскага стала вядома 3 лютага. Алега Граблеўскага, які з'яўляецца падазраваным па крымінальнай справе, спачатку змясцілі ў ІЧУ на 72 гадзіны, потым перавялі ў СІЗА. Сяргей Драздоўскі, які таксама знаходзіцца ў статусе падазраванага, быў змешчаны пад хатні арышт з забаронай на выкарыстанне сродкаў камунікацыі.

Лекара з Бараўлянаў асудзілі на 2 гады калоніі за падпал чатырох «табакерак». Святаслава Удота затрымалі ў канцы красавіка за расклейку ўлётак з надпісам «Беларусам — свабоду, пацуку — склеп». Яго арыштавалі на 15 сутак. Пазней стала вядома, што супраць яго распачалі крымінальную справу, абвінавацілі ў падпале чатырох «Табакерак». На судзе мужчына патлумачыў сваё дзеянні тым, што ён, як лекар, выступае за здаровы лад жыцця — дык час, каб усе «Табакеркі», якія ёсць у Бараўлянах, спынілі працу.

Кіраўніка Беларускага дома ва Украіне Віталя Шышова, які знік у Кіеве 2 жніўня, знайшлі павешаным у адным з кіеўскіх паркаў, непадалёк ад месца, дзе ён жыў. Паліцыя пачала крымінальную вытворчасць па артыкуле 115 Крымінальнага кодэкса Украіны (наўмыснае забойства) і будзе правяраць усе версіі, у тым ліку версію забойства, замаскіраванага пад суіцыд. Арганізацыя Шышова дапамагала ў тым ліку палітуцекачам з Беларусі.

Кіраўнік аддзелу расследаванняў «Bellingcat» Хрыста Грозеў заявіў, што ў апазіцыйныя беларускія структуры ва Украіне інтэграваліся супрацоўнікі расійскага ФСБ пад прыкрыццём. Грозеў не выключае, што смерць у Кіеве беларускага актывіста Віталя Шышова — гэта забойства, і сказаў, што «Bellingcat» накіроўвае «амаль усе рэсурсы на расследаванне гэтага забойства (калі яно забойства)».

Пачаўся суд над лідарам АГП Мікалаем Казловым. Ён не разумее, у чым сутнасць абвінавачання. Кіраўніка Аб'яднанай грамадзянскай партыі абвінавачваюць у разгалошванні звестак дазнання. Яму пагражае штраф ці да трох месяцаў арышту. Справу разглядаюць у судзе Ленінскага раёна Мінска, пасяджэнні зрабілі закрытымі. Крымінальная справа ў дачыненні да лідара АГП з'явілася ў сакавіку гэтага года. Раней Казлоў некалькі разоў адмаўляўся даваць падпіску аб неразгалошванні пасля допытаў у СК па крымінальнай справе супраць Каардынацыйнай рады. За гэта яго ўжо прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці.

На лецішчы на святкаванні дня народзінаў затрымалі ўдзельнікаў беларускага музычнага фэнтэзі-фолк гурта IRDORATH. Верагодна, святкавалі дзень народзінаў вакалісткі гурта Надзеі Ірдарат. спачатку музыкаў абвінавацілі ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт. 24.3 КаАП) за тое, што не адчынілі вароты. Паведамляецца пра затрыманне мінімум шасці чалавек. Сярод іх — Антон Шнып, Пётр Марчанка, Павел Шмыга, Уладзімір Калач, Юлія Юніцкая і Аляксандр Сінкевіч. Пасля затрымання іх даставілі ў Ждановіцкі аддзел міліцыі. Надзея Калач і Уладзімір Калач сталі падазраванымі ў «каардынацыі пратэстаў», астатніх прысуджалі да штрафаў.

## Кошты

Камісія па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння пры Савеце міністраў узгадніла павышэнне цэн на ўвесь асартымент малака, кефіру, смятаны, тварагу, цвёрдага і паўцвёрдага сыру, масла. Рашэнне прынятае «ў мэтах кампенсацыі росту затрат на вытворчасць (увоз) і (або) рэалізацыю малака і малочных прадуктаў». Да 31 жніўня дазволена павысіць цэны ў памеры, які не перавышае 4,9% (у залежнасці ад асартыменту і арганізацыі) адносна цэн на 28 лютага 2021 года. Таксама камісія ўзгадніла павышэнне коштаў не больш як на 4,9% на ўвесь асартымент маргарынаў.

Раней камісія дазволіла павялічыць цэны на рыс і дзіцячае харчаванне на 4%, хлеб і хлебабулачныя вырабы — на 4,9%. Таксама было дазволена павысіць цэны на сланечнікавы алей (на 15%). 23 лютага сёлета для стрымлівання росту цэнаў на сацыяльна значныя тавары ўрад забараніў павышаць цэны, а з сакавіка — вызначыў мяжу іх павышэння не больш як 0,2% за месяц. Павялічваць цэны вышэй за ўстаноўленую мяжу дазволена толькі са згоды камісіі па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння пры Савеце міністраў.

## Памяць

У Будзілаўцы, што на Бягомльшчыне, падчас свята вёскі адкрылі памятны знак ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Гэта стала працягам справы па ўвекавечанні памяці загінулых землякоў, распачатай выхадцам з Будзілаўкі, доктарам гістарычных навук, прафесарам Мікалаем Печанем. Менавіта яму належыць ідэя ўстаноўкі помніка і пасадкі бярозавага гаю.

Цяпер Мікалай Анатольевіч сабраў звесткі пра сваіх рэпрэсаваных родных і аднавяскоўцаў, з'ездзіў у Оршу, прывёз зямлю з Кабыляцкай гары, дзе ў гады рэпрэсій было расстраляна больш за 20 тысяч чалавек.

Унукі і праўнукі тых, чые імёны запісаныя на чорнай пліце, заклалі капсулу з зямлёй ля падножжа вялікага каменя. Пасля памінальнага набажэнства, якое адслужыў іерэй Аляксей Кушнярэвіч, памяць загінулых ушанавалі хвілінай маўчання.

## МАК

Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК) пачынае ўласнае расследаванне па справе беларускай лёгкаатлеткі Крысціны Ціманоўскай. 1 жніўня Нацыянальны алімпійскі камітэт Беларусі абвясціў аб адпраўцы Ціманоўскай на радзіму, рашэнне ён патлумачыў яе эмацыйна-псіхалагічным станам.

Спартсменка, якая спецыялізуецца на спрынце, заявіла, што ад удзелу ў Гульнях яна была адхіленая за крытыку ў сацыяльных сетках трэнерскага штаба зборнай, які хацеў заявіць яе на няпрофільную эстафетную дыстанцыю 4 па 400 метраў.

Ужо ў аэрапорце Ціманоўская звярнулася да супрацоўнікаў паліцыі, якія прадухілілі яе ад'езд з краіны. Ціманоўская 2 жніўня заявіла, што баіцца вярнуцца на радзіму, і папрасіла палітычнага прытулку ў Еўропе. Цяпер яна знаходзіцца ў пасольстве Польшчы ў Токіа, якое прадаставіла Ціманоўскай гуманітарную візу для ўезду ў краіну.

## Узнагароды

Зняволеных журналістак Андрэеву і Чульцову ўганаравалі прэміяй за свабоду СМІ. Кацярына Андрэева і Дар'я Чульцова ўзнагароджаныя за тое, што «сталі галасамі свабодных журналісцкіх рэпартажаў пры аўтакратычным рэжыме і пацярпелі за сваю працу».

Лейпцыгская прэмія «За свабоду і будучыню СМІ» заснаваная ў 2001 годзе ў памяць аб мірнай рэвалюцыі ў Лейпцыгу ўвосень 1989 года. Прэмія ўручаецца ў кастрычніку ў Лейпцыгу, кожнай з журналістак прысуджана па 10 тысяч еўра. Як будуць уручаць прэмію сёлета, пакуль не зразумела.

## Ціск

Інстытут імя Гётэ афіцыйна спыніў працу ў Беларусі. Беларускае Міністэрства замежных спраў раней перадало такое патрабаванне амбасадзе Германіі. Гаворка пра славутую нямецкую няўрадавую арганізацыю, якая дзейнічала ў Мінску 27 гадоў. Гётэ-Інстытут усяляк прасоўваў за мяжой нямецкую культуру. На яго базе працавалі курсы нямецкай мовы і ладзіліся культурныя выставы, дзякуючы гэтай установе выходзілі пераклады на беларускую мову нямецкамоўнай класікі. 157 аддзяленняў Інстытута працуюць у 98 краінах свету.

Кіраўніца гродзенскага дзіцячага хоспісу Вольга Вялічка паведаміла, што ўлады Беларусі запатрабавалі дадаць яе ў спіс тых, каго шукае Інтэрпол. Яе кватэру ўзламаў Следчы камітэт. Вольга ў жніўні 2020-га ўдзельнічала ў перамовах актывістаў з уладамі, выступала на мірных акцыях супраць фальсіфікацый выбараў, гвалту сілавікоў. У кастрычніку вымушаная была з'ехаць з краіны. Супраць яе і хоспіса вядзецца крымінальная справа.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Паміж радкоў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У савецкія часы была народная забаўка — чытаць паміж радкоў. Журналісты імкнуліся напісаць так, каб цэнзар не зразумеў, а чытачы — даведаліся, што ж сапраўды меў на ўвазе аўтар. Цяпер гэтая традыцыя ў пэўным сэнсе адраджаецца.**


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Урадавыя органы падкінулі нам новыя звесткі для развагаў. Напрыклад, Мінфін паведаміў, што дэфіцыт рэспубліканскага бюджэту за чэрвень вырас да 1 мільярда 561,6 мільёна рублёў. Падавалася б, калі ён запланавана-скарэктаваны да 6 мільярдаў рублёў, то за паўгода — дэфіцыт невялікі. Але пры гэтым ведамства дадае, што за чэрвень гэты паказчык павялічыўся на 585,2 мільёна рублёў.

Атрымліваецца, што за адзін месяц дэфіцыт бюджэту вырас на палову ад усяго папярэдняга перыяду! А гэта ўжо — даволі трывожны званочак. Значыць, дзесьці скончыліся грошы.

На мінулым тыдні эканамічную сітуацыю абмяркоўвалі на пашыраным пасяджэнні Нацбанка, пасля чаго рэгулятар апублікаваў аб'ёмныя даклады па тэме. Нацбанк прызнае, што рэальная інфляцыя нават вышэйшая, пры гэтым негатыўныя чаканні і сярод насельніцтва, і сярод прадпрыемстваў працягваюць расці.

Адчувальная інфляцыя (гэта значыць, не «сухая лічба статыстыкі», а тое, як на самай справе ўспрымаецца рост цэн) вырасла да 14,6% у чэрвені. «Паводле звестак маніторынгу прадпрыемстваў, росту спажывецкіх цэн у найбліжэйшыя месяцы чакаюць звыш 90% апытаных кіраўнікоў арганізацый. З іх 47,5% лічаць, што інтэнсіўнасць росту спажывецкіх цэн захаваецца на бягучым узроўні, а 33% — што рост цэн паскорыцца», — адзначаюць у Нацбанку.

Сярод негатыўных фактараў пералічваюць «недастатковы ўзровень развіцця канкурэнцыі ў краіне» і «невысокая эфектыўнасць працы шмат якіх айчынных прадпрыемстваў». Уплываюць і высокія інфляцыйныя чаканні, а таксама насцярожанасць на валютным і дэпазітным рынках.

«Ва ўмовах, якія склаліся, чакаецца, што па выніках ІІІ квартала 2021 года гадавая інфляцыя захаваецца блізу ўзроўню, які склаўся ў чэрвені. Такая дынаміка шмат у чым абумоўленая яе паскарэннем, што ўжо адбылося. У далейшым інтэнсіўнасць інфляцыйных працэсаў замарудзіцца: па выніках 2021 года прырост спажывецкіх цэн ацэньваецца каля 9%», — прагназуе Нацбанк.

Пры гэтым рэгулятар вызнае, што фінансавы сектар Рэспублікі Беларусь ужо больш за пяць кварталаў функцыянуе ў стрэсавых умовах. Асноўныя пагрозы для яго — «нарастаючы санкцыйны ціск» і «няўстойлівасць рэсурснай базы банкаў».

А яшчэ, як заўсёды ў нашых чыноўнікаў, — «народ дрэнны». «Найбольшую ўразлівасць да дзеяння негатыўных фактараў дэманстравалі тэрміновыя дэпазіты насельніцтва ў замежнай валюце. Іх велічыня за паўгоддзе знізілася на 13,4%», — канстатуе рэгулятар. Народ выносіць валюту, як толькі ў яго заканчваецца тэрмін дзеяння ўкладаў.

То-бок, нягледзячы на тое, што сістэма яшчэ трымаецца, фінансава-эканамічны крызіс ужо маячыць на гарызонце. Адказваць за такія нярадасныя паказчыкі, зразумела, нехта павінен. Але ў нашай сітуацыі «адказваць» — гэта раўназначна турэмнаму зняволенню. А сядзець ніхто не хоча.

На сайце Мінскага аблвыканкама размешчана аб'ява, у якой паведамляецца пра 42 вакантныя месцы кіраўнікоў дзяржарганізацый у розных сферах. Больш за ўсё ў Мінскай вобласці не хапае дырэктараў-«гаспадарнікаў» у аграсектары.

«Еўрарадыё» паглядзела сайты па пошуку працы і высветліла, што дзяржкіраўнікоў не хапае ва ўсіх абласцях Беларусі. Пры гэтым ёсць і цалкам «дырэктарскія» заробкі: больш за 3000 рублёў, а ёсць і цалкам «народныя». Напрыклад, маючы фізкультурную адукацыю, можна папрацаваць дырэктарам спецыялізаванай спартыўнай школы ў Рэчыцкім раёне — за 550 рублёў на месяц.

Карацей, наменклатура пачыху пачала разбягацца. У асноўным, напэўна, таму, што яны зразумелі — рашэнні прымаюцца не імі, а адказваць за выкананне гэтых рашэнняў давядзецца менавіта ім.

Вось, напрыклад, арганізавала Беларусь мігранцка-турыстычны бізнес у Літву — як наш адказ на санкцыі. На тыдні быў у чарговы раз пабіты рэкорд — у нядзелю, 1 жніўня, з беларускага боку незаконна перайшлі мяжу і апынуліся ў Літве 289 мігрантаў. Для параўнання — за ўвесь мінулы год Літва затрымала ўсяго 81 нелегальнага мігранта з Беларусі.

Што толькі ні рабілі нашыя суседзі, каб спыніць гэтую хвалю: і плот з калючага дроту пачалі будаваць — ды так, што ў іх запасы гэтага дроту скончыліся, і еўрапейскіх памежнікаў на дапамогу паклікалі... А цяпер вырашылі дзейнічаць больш радыкальна — прынята рашэнне вяртаць нелегальных мігрантаў назад у Беларусь.

«Мяжу Літвы павінны абараняць усімі законнымі спосабамі ад любога незаконнага перасячэння, як інструмента гібрыднай атакі, якую цяпер праводзяць супраць Літвы. Людзей, якія наўмысна незаконна перасякаюць мяжу ў забароненых месцах, павінны расцэньваць як злачынцаў, якія маюць намер здзейсніць супрацьзаконнае дзеянне — незаконна перайсці мяжу», — сказала кіраўніца аперацый дзяржаўнай надзвычайнай сітуацыі Літвы Агне Білатайтэ.

І на наступны дзень пасля гэтай заявы літоўскія пamежнікі выправадзілі назад у Беларусь некалькі груп нелегальных мігрантаў.

У выніку нелегальная міграцыя стане галаўным болем ужо менавіта для нашай улады. І цяпер літоўцы змогуць узяць на ўзбраенне рыторыку Лукашэнкі, які казаў, што «вы ж запрасілі мігрантаў да сябе». А нашы ўлады — менавіта запрасілі, бо, па паведамленнях СМІ, «мігранцкім турызмам» у нас займаецца дзяржаўнае агенцтва «Цэнтркурорт».

Ну і прыемная навіна — хаця, зноў жа, з якога боку на яе паглядзець — у Беларусі стварылі прататып айчыннай вакцыны ад каронавіруса, заявіў кіраўнік Нацыянальнай акадэміі навук Уладзімір Гусакоў. Ён мяркуе, што ў наступным годзе атрымаецца перадаць распрацоўку для ўсеагульнай вакцынацыі.

Цікава, што нашае Міндароўя планавала да канца гэтага года прышчапіць ад каронавіруса да 60% насельніцтва. Калі гэтыя планы спраўдзяцца (а можна быць упэўненым, што на паперцы намалююць усё, што заўгодна), то каму будзе патрэбная тая «айчынная вакцына» ў наступным годзе? Не, тое, што на фундаментальныя даследаванні нарэшце выдаткавалі грошы — безумоўна, добра. Але хваліца такім мала патрэбным дасягненнем, напэўна, не варта было.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Крысціна Ціманоўская



**Беларуская лёгкаатлетка стала прычынай маштабнага скандалу на Алімпійскіх гульнях у Токіа, і ў выніку ёй давялося застацца за межамі краіны.**

Крысціна Ціманоўская рэзка раскрытыкавала рашэнне беларускіх спартыўных чыноўнікаў на сваёй старонцы ў Інстаграм. Чыноўнікі Мінспорту не здолелі своечасова правесці допінг-пробы, у выніку чаго эстафетная каманда ў Токіа не прыехала. Ціманоўскую абавязалі бегчы эстафету 4х400, хоць гэта не яе дыстанцыя, яна выступае на 100 і 200 метраў.

«Аказваецца, наша вельмі "крутое" начальства вырашыла, як звычайна, усё за нас. Яны наблыталі з дзяўчатамі, у якіх не хапае дастаткова тэстаў, каб прылецець на іх першую ў жыцці Алімпіяду, і вырашылі зрабіць ход канём і запусціць мяне ў эстафету. Чаму ж мы павінны расплачвацца за вашы касякі?» — абурылася яна.

Пасля гэтага Ціманоўскую вырашылі цішком дэпартаваць з Токіа, хаця ў яе яшчэ заставаўся ўдзел у забегу на 200 метраў. Галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Юрый Маісевіч паведаміў Ціманоўскай, што рашэнне пра яе дэпартацыю вырашалася не на ўзроўні федэрацыі [лёгкай атлетыкі], не на ўзроўні міністэрства спорту, а ўзроўнем вышэй. Ціманоўская, ведаючы, што значыць «рашэнне прымалася вышэй», у аэрапорце Токіа папрасіла абароны ў японскіх паліцэйскіх. У выніку яна засталася за мяжой і папрасіла нацыянальную візу Польшчы.

## Марыя Калеснікава



**Напярэдадні свайго суда, які праходзіць у закрытым рэжыме, Марыя Калеснікава звярнулася да Лукашэнкі з заклікам спыніць гвалт і паспрабаваць мірным спосабам знайсці выхад з палітычнага крызісу.**

Калеснікава здолела даць пісьмовае інтэрв'ю газеце Welt am Sonntag. «Барацьба беларускага народа павінна стаць нашай агульнай справай, а яго перамога — увайсці ў гісторыю», — заявіла Калеснікава.

«Я заклікаю перастаць змагацца з уласным народам, прыслухацца да беларусаў і пачаць новы дыялог. Спыніце гвалт! Спыніце абсурдныя судовыя працэсы! Не разбурайце эканоміку і паспяховыя прадпрыемствы! Выпусціце людзей з турмаў!» — напісала яна.

Марыю Калеснікаву схапілі 7 верасня 2020 года ў цэнтры Мінска. Яе і двух прадстаўнікоў Каардынацыйнай рады, Антона Раднянкова і Івана Краўцова, паспрабавалі гвалтоўна вывезці ва Украіну. Аднак Калеснікаву выправадзіць з Беларусі не ўдалося — на мяжы яна парвала свой пашпарт. Тады ёй выставілі абвінавачанне «ў закліках да дзеянняў, скіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, учыненых з выкарыстаннем СМІ і сеткі інтэрнэт».

У лютым Калеснікавай і аднаго з яе адвакатаў Максіма Знака абвінавацілі ў «змове з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам» і ў «стварэнні экстрэмісцкага фарміравання і кіраванні ім». Закрыты суд па справе пачаўся 4 жніўня.

## Віктар Бабарыка



**Віктар Бабарыка ў калоніі ў Наваполацку працуе апальшчыкам у пякарні. Пра гэта распавяла адвакатка Наталля Мацкевіч, якая дамаглася сустрэчы са сваім падабаронным.**

Наталля Мацкевіч 2 жніўня прыехала да Віктара Бабарыкі ў ПК-1, каб аказаць юрыдычную дапамогу. Начальнік калоніі паведаміў, што спатканне да 17 гадзін прадастаўлена быць не можа, бо Бабарыка знаходзіцца на працы і яго з яе зняць нельга.

Адвакатцы давялося сур'ёзна пачакаць. «Цудоўнае пачуццё гумару — пры ім! Кажа, што ідэя стварыць ЗК-банк не прайшла, прыйшлося змяніць прафесію. Падкідвае дроўцы ў пякарні, апальшчык. "Мае працоўныя подзвігі здымаюць на відэа"», — працытавала адвакатка свайго падабароннага.

Нагадаем, што прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта ў 2020 годзе Віктар Бабарыка асуджаны на 14 гадоў зняволення па «справе «Белгазпрамбанка». Праваабаронцы лічаць прысуд палітычна матываваным і звязаным з яго ўдзелам у выбарчай кампаніі.

# Доўгая дарога да Беларусі

« Заканчэнне.
Пачатак на на стар. 1




А таксама вымушаная масавая эміграцыя самых разумных і таленавітых беларусаў за межы сваёй Айчыны, міжнародныя санкцыі, ізаляцыя. І яшчэ прапагандысцкая вайна супраць гістарычных сімвалаў і вядомых асоб, беспрэцэдэнтныя напады на незалежных журналістаў — не, не такога чакаў народ беларускі год таму.

Здавалася б, у Беларусі цяпер пануюць жах, масавы страх і няпэўнасць у заўтрашнім дні, расчараванне і адчай, нявер'е ва ўласныя сілы і ў нейкія перамены да лепшага. І гэта зразумела, бо на гэта на ўсю моц працуе магутная дзяржаўная машына, не абмежаваная ніякімі правіламі, законамі і нормамі. Хоць і застаюцца яшчэ аптымісты, якія вераць у лепшае. З іншага боку, калі не верыць у лепшае, не мець надзеі, то навошта наогул жыць? Таму верым. І жывем.

**Генадзь Кеснер**

## Казаць праўду і не баяцца

Многія людзі, які застаюцца ў Беларусі, пакутліва шукаюць адказы на пытанні — што будзе і што рабіць. Ведаю, што пакутуюць і тыя, хто за мяжой, але для тых, хто ўнутры, яны больш вострыя. Мы многае гатовыя зрабіць і для сваіх родных за кратамі, і для Беларусі, але мы дайшлі да такой мяжы, калі мы стаім знясіленыя і не ведаем, што рабіць, мы гатовыя ўсё аддаць, але не ведаем, што.

Наша барацьба, тут, у Беларусі, перайшла ў пэўным сэнсе ў духоўную сферу, калі кожнаму сумленнаму чалавеку баліць, калі кожнаму даводзіцца змагацца са сваім страхам і са сваім бяссіллем. Гэта змрочны час, але ў моманты чалавечага бяссілля Бог працуе з сэрцамі. І гэтая праца, трансфармацыя — яна відавочная цяпер, яна кідаецца ў вочы. Я бачу, як людзі змяняюць сваё стаўленне да беларускай мовы, як адгукаюцца многім беларусам словы пра веру. Раней такога не было. Таму я думаю, нам усім цяпер трэба імкнуцца рабіць 4 рэчы.

Па-першае, казаць праўду і не ісці на супрацу са злом у любой яго праяве, нават самай дробнай. Па-другое, старацца не баяцца. Па-трэцяе, размаўляць па-беларуску: беларуская мова цяпер — гэта наша зброя і наша абарона, беларуская мова цяпер — гэта як белы бранзалет летась. Па-чацвёртае, верыць і спадзявацца на Бога. Якраз вера і мова — цяпер, у час чакання, — гэта найважнейшыя чыннікі. Чым хутчэй беларусы пачнуць размаўляць па-беларуску і паверацъ, тым хутчэй мы пераможам.

Мне так бачыцца… Павел Севярынец падкрэсліваe ў сваіх адкрытых зваротах з-за кратаў, што наша нацыянальная ідэя сканцэнтравалася цяпер у кароткі выраз — гэта Ісус Хрыстос, які гаворыць па-беларуску.

**Вольга Севярынец**

## Душа народа застаецца

Апошні год можна аднолькава назваць і самым трагічным, і самым натхняльным у гісторыі незалежнай Беларусі. Год таму мы займелі надзею і адчулі сябе нацыяй. Год таму нас жорстка падманулі, многія зведалі катаванні, зняволенне, у кагосьці забралі жыццё. Хтосьці за гэты год зразумеў, што ён здольны на многае. Нехта ўсвядоміў, што ў яго не засталося нічога — у тым ліку і радзімы.

Аднак, калі прыслухацца да ўнутраных адчуванняў, становіцца зразумела, што там ёсць крыўда, злосць, непрымание, чаканне, надзея. Але няма страху — бо мы ўжо прайшлі паскораны курс пекла. Няма адчаю — бо мы бачылі, як нас шмат і на што мы здольныя.

Адназначна можна сказаць толькі тое, што гэты год зрабіў у нас незваротныя ўнутраныя змены. Мы ўжо ніколі не павернем назад, да колішняй абыякавасці і бяссілля. Так, хуткай перамогі не адбылося, дый не магло адбыцца — гэта было б няправільна і супярэчыла б законам гісторыі. І цяпер нам часам здаецца, што мы разбітыя і знясіленыя, застрашаныя і выціснутыя з роднай краіны. Але кожны новы дзень сведчыць, што мы застаемся нескаранымі і свабоднымі ўнутрана.

Краіна — гэта народ. І толькі захоўваючы ўнутраную свабоду і прыгажосць, транслюючы яе навокал, перадаючы сваім дзецям, мы зможам атрымаць тую краіну, пра якую марым, — вольную і шчаслівую. Бо любыя ўлады ўрэшце сыходзяць, хочуць яны таго ці не. А душа народа застаецца.

**Дзіяна Серадзюк**

## «Все одно — добро закохає зло!»

Не трэба быць сур'ёзным аналітыкам, каб год таму прадказаць, што перамога хуткай не будзе.

Ці чакаю я нейкіх радыкальных перамен у хуткай будучыні? Хутчэй, не. Больш за ўсё не хочацца варыянту, калі ўсё прыйдзе ва ўмоўную раўнавагу. Людзі будуць кропкава супраціўляцца, грамадзянскую супольнасць будуць паступова зачышчаць, пройдзе чарговая хваля рэпрэсій, пад якую трапяць тыя, каго пакуль абмінула. Эканоміка руйнуецца, беларуская палітыка, дыпламатыя ператвараюцца ў фарс. І так, людзі з'язджаюць.

За апошні год краіну пакінулі не менш за пару дзясяткаў тых, каго я ведаю асабіста. Сярод іх, дарэчы, і мой старэйшы сын, які працуе ў адной з апальных рэдакцый. Я ведаю, што вымушаная эміграцыя для яго — вялікае выпрабаванне. Хоць, з іншага боку, і магчымасць для развіцця. Але больш за ўсё ён хоча вярнуцца.

Калі апаноўвае паняверка, я адкрываю леташнія публікацыі на сайце «Новага Часу» — рэпартажы з мітынгаў і ашаламляльных маршаў, прыгожых ланцугоў, якія злучалі цэлы горад, і дваравых акцый. Гартаю фотаздымкі Дзмітрыя Дзмітрыева, гляджу ў твары людзей, якія год таму паверылі ў сябе і перасталі баяцца. Шчаслівыя, натхнёныя, поўныя надзеі. Куды ўсё гэта падзелася? Так, няма вялікіх маршаў, вокны дамоў даўно не ўпрыгожваюць «па схеме бчб», і нават белыя аркушы па-за законам. Але дагэтуль шпацыруюць жанчыны з белымі і чырвонымі парасонамі, трывае «ціхі супраціў», а падтрымка зняволеных стала асобнай формай нашай салідарнасці. Мой малодшы сын па сваёй ініцыятыве вітае суседзяў воклічам «Жыве Беларусь!» і фарбуе сусветы ў Майнкрафце бел-чырвона-белым.

Апошнія месяцы маёй асабістай мантрай сталі радкі з песні ўкраінскага гурта ТНМК: «Щоб там не було, як би не було, все одно — добро закохає зло!»

**Краіна — гэта народ. І толькі захоўваючы ўнутраную свабоду і прыгажосць, транслюючы яе навокал, перадаючы сваім дзецям, мы зможам атрымаць тую краіну, пра якую марым, — вольную і шчаслівую. Бо любыя ўлады ўрэшце сыходзяць, хочуць яны таго ці не. А душа народа застаецца**

Мы моцна змяніліся год таму, супрацьпаставіўшы дабро злу. Так, пэўная частка тых, хто тады радасна махаў сцяжкамі, цяпер вярнулася да «звычайнага жыцця». Але агулам грамадства ўжо іншае. Можна закрыць рэдакцыю тут, але яна знойдзе магчымасць працаваць на Беларусь дзесьці там. Можна зачысціць грамадскія арганізацыі — але ж людзі застануцца! Мы рухаемся наперад, хоць і не так хутка, як хацелася. І я ведаю, што наш галоўны Марш яшчэ наперадзе.

**Анастасія Рубанава**

## Інакш і быць не магло?

Ці так ужо складана было прадказаць развіццё падзей год таму? Хутчэй не, чым так — як казаў герой пісьменніка Юрыя Палякова. На сённяшні розум, дык часам увогуле падаецца, што аніяк інакш яно і быць не магло. Бо фармацыі не змяняюцца ў адзін момант. І хто там першы вымавіў, што бягучыя працэсы ў Беларусі — гэта марафон, а не спрынт? А марафон — справа доўгая і працаёмкая.

Год таму мой галоўны пасыл — Рубікон пяройдзены, і краіна больш не будзе ранейшай. То так. Столькі ўсяго мінула за гэтыя дванаццаць месяцаў. Столькі новага даведаліся адзін пра адно ўлада і грамадства. Столькі чырвоных ліній сцерлася і пад чорнымі берцамі сілавікоў, і пад «конверсамі», што знакаміта скідвалі пратэстоўцы, эстэтычна ўзыходзячы на тыя муніцыпальныя лаўкі… Зноў звязаць вузельчыкі пасля ўсяго перажытага — не, рассечанае не звязваецца.

Год таму галоўная думка — «дзейная ўлада мае дастаткова знешніх рэсурсаў і ўнутраных рэзерваў, каб сябе абараніць». То зноў так, хаця, зразумела, ва ўсяго ёсць цана, і ў «вышэйшых эшалонах» не могуць не разумець, што ў метадах «нармалізацыі» атрымаўся грандыёзны перабор. Тысячы крымінальных спраў, дзясяткі тысяч спраў адміністрацыйных, а колькасць палітычных эмігрантаў нават страшна сабе ўявіць. Плюс санкцыі, міжнародная ізаляцыя і супрацьстаянне заходняй цывілізацыі на мяжы халоднай вайны. Цана, канешне, выявілася спусташальнай, але ж гуляць дык гуляць.

Год таму галоўны сэнс — немагчыма ісці супраць законаў гісторыі. І зноў слушна, бо гісторыя, кажуць, навука дакладная, і адвярнуць яе кола ў зваротны бок яшчэ нікому не ўдавалася. Ёсць адчуванне, што гэта — хай і кожны па-свойму — разумеюць абодва бакі. Іншая справа: ніхто не ведае, калі перавернецца беларускі пясочны гадзіннік. У гэтай частцы дакладнасці навуцы гісторыі бракуе, і аніякі Шрайбман акуляр тут на рэзкасць не навядзе.

Таму надалей — лепш без прагнозаў, бо яны маюць уласцівасць збывацца. Лепш — проста верыць у разумнае, добрае і вечнае. Проста ведаць, што яно аднойчы надыдзе. Проста жыць.

**Сяргей Кайко**

# У нас ёсць мара



Сяргей ПУЛЬША

**«У мяне ёсць мара» — так называлася самая вядомая прамова Марціна Лютэра Кінга, амерыканскага прапаведніка і грамадскага дзеяча, самага вядомага прадстаўніка руху за грамадзянскія правы чарнаскурых у ЗША. Большасць беларусаў цяпер могуць сказаць тое ж самае: у нас ёсць мара. І ў гэтым — самае фундаментальнае адрозненне беларусаў ад тых, хто абвясціў сябе ўладай.**

З дня прэзідэнцкіх выбараў 2020-га і пачатку грамадзянскага супрацьстаяння — або, як прынята казаць, «палітычнага крызісу» — прайшоў ужо год. Год беспрэцэдэнтных рэпрэсій, год няздзейсненых надзей, год духоўнага ўздыму і год глыбокіх расчараванняў. Год — гэта дастаткова час для таго, каб урэгуляваць той самы палітычны крызіс, калі б для гэтага была палітычная, зноў жа, воля. Але гэтага не здарылася — і ў Беларусі на сёння больш за 600 палітвязняў, а дзяржава знаходзіцца практычна ў міжнароднай ізаляцыі. І цяпер, падсумоўваючы гэтую гадавіну, напэўна, будзе чуваць шмат галасоў расчаравання: не дацпіснулі, не перамаглі, не здолелі…

Так, многія расчараваныя. Так, хуткай перамогі не атрымалася. Але гэта не значыць, што мы пацярпелі паразу. Бо мы, на самай справе, проста стварылі падмурак для гэтай перамогі.

### У нас ёсць мара

Перш за ўсё, у асяроддзі «неверагодных», якіх так любяць крытыкаваць, існуе кансэнсус пра тое, у якой краіне мы хацелі б жыць. Гэта краіна, у якой усе роўныя перад законам. У якой выбарныя пасады сапраўды з'яўляюцца выбарнымі. Краіна, у якой чыноўнікі падсправаздачныя народу. У якой вітаецца і заахвочваецца дзелавая і сацыяльная ініцыятыва. У якой салідарнасць і ўзаемадапамога — не пусты гук. Гэта краіна, у якой меркаванне меншасці будзе ўлічвацца пры прыняцці рашэнняў.

Мы нават не ўяўляем — дакладна ведаем, як краіна будзе развівацца, адкуль возьмуцца «драйверы росту», адкуль прыйдуць інвестыцыі. Мы ведаем, што наша дзяржава (а дзяржава — гэта зусім не тое ж самае, што краіна!) не будзе шукаць ворагаў, а перш за ўсё будзе шукаць і знаходзіць сяброў.

У гэтых ведах і ўяўленнях — фундаментальнае адрозненне «нас» ад «іх», тых, хто цяпер лічыць сябе ўладай. Адрозненне, якое ў перспектыве (можа быць, нават не такой далёкай) прывядзе да зменаў, якіх мы хочам.

### Поўная нявыкрутка

Тыя, хто цяпер расчароўваецца ў «неверагодных», ва ўласным выбары, проста не ўяўляюць, якое расчараванне пануе ў проціглеглым лагеры. Так, пакуль дзеючы рэжым змог утрымаць уладу — коштам збройнага гвалту і велізарнага напружання карнай сістэмы. Але аказалася, што гэта «Пірава перамога». Аказалася, што ўладу ўтрымалі дзеля ўлады. Але ўлада без народнай падтрымкі, той самай «унутранай легітымнасці» — хто б мог падумаць! — не працуе.

За мінулы год (цэлы год!) нам не было прапанавана ніякай пазітыўнай праграмы, ніякіх варыянтаў развіцця краіны. Усё, што мы чуем цэлы год, — гэта рыторыка «крэпасці ў аблозе», калі ўсюды ворагі: і за межамі гэтай крэпасці, і ўнутры яе.

Той, хто да гэтага часу слухае або чытае выступы Лукашэнкі, можа параўнаць яго прамову перад «вертыкаллю» 30 ліпеня гэтага года, і пасланне народу і парламенту мінулага года ад 4 жніўня. За цэлы год у рыторыцы адбылася толькі адна змена: калі год таму Лукашэнка абвінавачваў у вераломстве Расію праз перакіданне «вагнераўцаў» у Сінявокую ў час уборачнай кампаніі, то цяпер — вераломны Захад. У астатнім — тыя ж замовы: «Дайце захаваць краіну» і «не здраджвайце». Ніякіх ідэй і стратэгіі, акрамя аднаго — выжыць любой цаной.

Як адзначыў тэлеграм-канал «Рэфлексія і рэакцыя», «планаў няма настолькі, што нават ніхто не разумее, навошта патрэбны канстытуцыйны рэферэндум, якія менавіта павінны быць змены ў Канстытуцыю і, галоўнае, навошта гэта самому Лукашэнку. Гэта нават не працэс дзеля працэсу — гэта працэс незразумела дзеля чаго».

І тыя ж аўтары звяртаюць увагу на выраз твараў людзей у залі — за год яны не змяніліся. І адказаў на самыя актуальныя пытанні на месцах (інфляцыя, ковід, адкрыццё межаў, беспрацоўе) — няма.

### Ініцыятыва караецца

Стратэгія «выжыць любым коштам» наогул не прадугледжвае не тое што канцэптаў развіцця краіны, але нават і ацэнак рызыкаў. Многія дзівяцца, як беларускія ўлады робяць відавочна абсурдныя ў сваёй логіцы дзеянні («страляюць сабе ў нагу» ці «бамбяць Валожын») пры тым, што негатыўныя наступствы гэтых дзеянняў відавочныя, здавалася б, нават дзіцяці. Той жа самы ініцыяваны «крызіс з мігрантамі»: няўжо не было зразумела, што Еўропа будзе павінна адказваць на гэты выклік? І нічога добрага ўладам Беларусі гэта не прынясе?

Ці, напрыклад, алімпійскі скандал з атлеткай Ціманоўскай, якую знялі са спаборніцтваў і спрабавалі сілком вывезці ў Беларусь. Спачатку функцыянеры напартачылі са складам зборнай, не зрабіўшы своечасова тэсты, потым паспрабавалі замяніць адных спартсменаў іншымі, няпрофільнымі, а потым, калі сітуацыя выклікала абурэнне і крытыку, паспрабавалі пракруціць схему «няма чалавека — няма праблемы», арганізаваўшы амаль выкраданне спартсменкі прама з Алімпіяды!




На думку аналітыка Пятра Кузняцова, гэта паказвае, што сістэмы ў Беларусі як такой ужо няма. «Тое, што яны называюць "дзяржавай", не працуе сёння ні як дзяржава, ні нават як іх сістэма. Няма працоўных алгарытмаў, няма зладжанай і наладжанай аўтаматычнай і паслядоўнай працы асобных звёнаў вялікага цэлага, у чыноўнікаў няма разумення ці чаго б там ні было іншага, што і як рабіць у існуючых умовах у сваёй сферы. Ёсць адно — рашэнні і загады, якія трэба тэрмінова і нягледзячы ні на што, выконваць».

«Але гэта — не сістэма, — працягвае Кузняцоў. — Гэта — велізарная колькасць бяздумных выканаўцаў, якія кіруюцца ў ручным рэжыме. Гэтая канфігурацыя — найменш устойлівая з усіх магчымых да любых стрэсаў, таму што ў выпадку любога па-сапраўднаму моцнага імпульсу ўвесь гэты натоўп выканаўцаў проста не будзе ведаць і разумець, што ім рабіць і як».

Зразумела, якое-небудзь бачанне будучыні пры такім стане спраў проста немагчыма. А калі няма бачання будучыні — няма і ініцыятывы. Няма ініцыятывы — няма развіцця. Адсутнасць развіцця прыводзіць у лепшым выпадку да стагнацыі, у горшым — да загнівання. І гэта гніенне ўжо відавочна адчуваецца ажно на самым версе.

Паглядзіце, да чаго апелявалі кіраўнікі беларускай дэлегацыі ў выпадку з Ціманоўскай: «Калі нам прапанавана так — мы павінны падпарадкавацца і паступіць так, разумееш? Падпарадкавацца і паступіць так». Пра тое, каб згладзіць скандал ці хаця б паразумецца, нават гаворкі не ішло! Ці гэта не прыклад гніення?

### Ці доўга чакаць?

Зразумела, што, не бачачы мэты нават у мікраскоп, рухацца да яе немагчыма. Таму ўсім зразумела, што сістэма рана ці позна абваліцца. І ў асяроддзі прыхільнікаў пераменаў раздаюцца пытанні, самае папулярнае з якіх, і якое я чуў не адзін раз: «Калі ж усё гэта скончыцца?» Усім хацелася б, каб «гэта» скончылася хутчэй.

І вось тут нічым не магу суцешыць. Калі чакаць, што «гэта скончыцца», то «гэта» скончыцца вельмі няхутка.

Ніхто нам не абяцаў, што ўсё будзе проста і лёгка. Не можа сістэма, якая выбудоўвалася чвэрць стагоддзя, абрынуцца ад аднаго чыху. Ды гэтага, шчыра кажучы, і не трэба. Таму што тое, што лёгка даецца, лёгка і губляецца.

У 1991 годзе такая ж, як цяпер, дэзарыентацыя наменклатуры дазволіла Беларусі здабыць незалежнасць, бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» ў якасці дзяржаўных сімвалаў. Але гэта не было выпакутавана — і ў выніку ўжо ў 1995-м на рэферэндуме сімволіка была заменена на мадэрнізаваную савецкую.

Можна бясконца сцвярджаць, што той рэферэндум не меў сілы з пункту гледжання закона, але нельга не пагадзіцца з тым, што людзі на ім усё ж прагаласавалі так, як прагаласавалі.

Менавіта цяпер — праз рэпрэсіі, праз несправядлівыя прысуды — нацыянальная сімволіка стала выпакутаванай, сапраўды нацыянальнай і сапраўды каштоўнасцю. Менавіта цяпер ужо ніякія рашэнні ніякіх дзяржаўных органаў пра тое, што яна «экстрэмісцкая» ці яшчэ якая, не зменяць стаўленне да гэтай сімволікі людзей.

Калі б усё было лёгка, і Лукашэнка сапраўды сышоў у жніўні 2020-га, калі на вуліцы выходзіла 200–400 тысяч чалавек, мы б, безумоўна, ужо правялі свабодныя прэзідэнцкія выбары і жылі ў іншай краіне. Але тады б мы не даведаліся феномену «дваровых чатаў» — правобразу «прамой дэмакратыі». Мы не ўбачылі б сілу нашай дыяспары, якая вельмі шмат зрабіла для нас у Беларусі, і не адчулі адзінства з ёй. Мы б не даведаліся сэнсу фразы «беларус беларусу беларус». Мы не ўсвядомілі б каштоўнасці валанцёрства, самвыдату, друкаваных СМІ. Смешна, але многія наогул успомнілі, як пісаць асадкай на паперы толькі «дзякуючы» перапісцы з палітвязнямі.

Можна бясконца пытацца: «Калі гэта ўсё скончыцца?» Але адказ на гэта нам ужо далі: Віктар Бабарыка і Марыя Калеснікава, Сяргей Ціханоўскі і Мікалай Статкевіч. Усе яны пішуць прыкладна адну фразу: «Мы будзем сядзець столькі, колькі дазволіць народ».

Можна чакаць, калі гэта скончыцца, а можна над гэтым працаваць. Можна быць назіральнікам у судах. Можна падтрымліваць палітвязняў лістамі. Можна падтрымліваць тыя, што засталіся ў краіне, незалежныя СМІ. Можна адмовіцца ад прымусовай падпіскі на прапагандысцкія выданні. Можна проста адмаўляцца ад удзелу ў афіцыйных мерапрыемствах.

Падаецца, маленькія крокі, так? Але на самай справе, кожны такі крок — гэта прыклад мужнасці для астатніх. Калі адзін чалавек адмовіцца здаваць грошы на прымусовую падпіску сёння — заўтра яго прыклад натхніць астатніх. Адзін музыка ў пераходзе сыграе «Пераменаў» Цоя — і гэтым ён падтрымае дзясяткі мінакоў, хай нават яны відавочна не адрэагуюць на музыку.

Проста эвалюцыя беларусаў, насамрэч, працягваецца. У 2020-м, як казалі многія палітолагі, беларусы праявілі сябе як нацыя. Цяпер, у 2021-м, у перыяд рэпрэсій і супрацьстаяння, ідзе станаўленне беларусаў як грамадзян. Калі ў 2020-м беларусы паказалі нацыю праз «рэвалюцыю мас», то цяпер праз індывідуальную мужнасць кожны становіцца (ці не становіцца) грамадзянінам. Менавіта гэтая, індывідуальная, прыхаваная праца цяпер і адбываецца.

### Што далей?

Вонкава сітуацыя ў Беларусі выглядае так, што пратэсты сціхлі. Але на самай справе нічога не скончылася. Сітуацыю можа ўзарваць любы трыгер. Напрыклад, Лукашэнка хоча правесці рэферэндум па сваім праекце Канстытуцыі ў лютым 2022 года. Але толькі ад беларусаў залежыць, ці адбудзецца плебісцыт у прынцыпе. І справа нават не ў яўцы на галасаванне — ці пагодзяцца беларусы прысутнічаць у выбарчых камісіях альбо пойдуць масавыя адмовы ад такога «гонару»?

Татальныя адмовы ад удзелу ў камісіях цалкам магчымыя: дастаткова ўспомніць, як беларусы сёлета ігнаравалі афіцыйныя святкаванні — ад Новага года да Дня вызвалення Мінска.

А можа быць, яшчэ большым ударам па сістэме будзе, наадварот, удзел у гэтых камісіях — з масавым сумленным падлікам галасоў пад ціскам грамадскасці?

Можа быць, увосень эканоміка адчуе сектаральныя санкцыі ЕС і ЗША, а можа — больш адчувальным будзе рашэнне «Газпрому» скараціць транзіт газу па Беларусі на 80% з-за запуску «Паўночнага патоку-2».

Цяпер, як і год таму, можа здарыцца ўсё, што заўгодна. Але адзінае, што вядома дакладна і даўно — «У карэце мінулага далёка не з'едзеш».

Ва ўлады ёсць карэта мінулага. А ў нас ёсць мара.

# «Калі ён выйдзе, абдыму яго,

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«Я ганаруся братам, ён герой», — гаворыць Юлія Дубоўская, сястра анархіста Дзмітрыя Дубоўскага, затрыманага ўвосень мінулага года з «групай Аліневіча» пры спробе нелегальна перайсці мяжу. Цяпер Дзмітрыя абвінавачваюць у тэрарызме і незаконных дзеяннях з агнястрэльнай зброяй, яму пагражае да 20 гадоў турмы. Сястра вязня распавяла «Новаму Часу», што з ім адбываецца цягам 9 месяцаў у СІЗА, як удаецца прабіць сцяну ў ліставанні і што ёй дае моцы трымацца.**

## «Лепш упісацца ў гісторыю як змагар з сістэмай, чым як нявінная ахвяра»

28 кастрычніка мінулага года пры спробе нелегальна перайсці мяжу з Украінай затрымалі групу з чатырох чалавек. Гэта былі анархісты Ігар Аліневіч, Дзмітрый Разановіч, Сяргей Раманаў і Дзмітрый Дубоўскі. Праўладныя СМІ паведамілі, што пры іх нібыта былі агнястрэльная зброя, боепрыпасы, граната, лёгкаўзгаральныя вадкасці, газавыя балончыкі. Сцвярджалася, што менавіта гэтая група здзейсніла падпал аўтамабіляў ля пракуратуры і памяшкання аддзела дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз у Салігорску ў ноч з 21 на 22 кастрычніка, а таксама будынкі Мазырскага ДАІ ў ноч з 27 на 28 кастрычніка. Нібыта Салігорск быў абраны для атакі, бо Дубоўскі — ураджэнец гэтага горада.

Падазраваных змясцілі ў СІЗА КДБ, іх дзеянні кваліфікаваныя па ч. 3 арт. 289 КК як акт тэрарызму, здзейснены арганізаванай групай. Таксама затрыманым прад'яўляюць незаконныя дзеянні ў адносінах агнястрэльнай зброі. Тэлеканал АНТ пасля затрымання апублікаваў відэа допыту Дзмітрыя Дубоўскага, дзе ён прызнаецца ў здзяйсненні падпалаў.



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Пазней у лісце да сястры з «амерыканкі» ён даў гэтаму тлумачэнні. Дзмітрый напісаў, што нягледзячы на яго адмаўленне ад здымкаў, першы допыт быў праведзены пад камеру, як і следчы эксперымент.

«У іншай краіне гэта б да суда нікуды на тэлебачанне не выйшла, але ў нас "асаблівая" краіна. Тым не менш, такі хуткі ўкід у эфір навіны пра наша затрыманне згуляў і нам на руку. На волі ўсе змаглі даведацца пра нас і прыняць меры, пачаць кампанію салідарнасці».

Дзмітрый Дубоўскі пісаў сястры, што сапраўды на відэа даў прызнальныя паказанні, каментаваў матывы і прычыны, якія падштурхнулі на гэта.

«Так было абмоўлена ўсімі намі, што ў выпадку затрымання прызнаемся ў выкананых дзеяннях і ў сваім удзеле ў супраціве! [...] Дый наогул, як паказвае практыка ў падобных справах, нават калі ты не прызнаеш і адмаўляеш відавочныя моманты і факты, цябе ўсё роўна асудзяць. Тут, як кажуць, лепш за ўсё не трапляцца, а калі ўжо трапіўся, то набярыся адвагі заяві пра свой выбар і ўчынак. Лепш упісацца ў гісторыю як змагар з сістэмай, чым як нявінная ахвяра».

Як тлумачыў Дзмітрый Дубоўскі, яны з Аліневічам, Раманавым і Разановічам пазначылі сябе як група анархістаў з розных гарадоў, якія вырашылі прыняць удзел у супраціве народа супраць непрызнанай і акупацыйнай улады. Акрамя элементарнай салідарнасці і спагады з народам, у кожнага з іх былі і свае прычыны для гэтага кроку.

## «Сястрычка, што б я без цябе рабіў?»

Юлія Дубоўская распавядае, што яны з братам у дзяцінстве ніколі не былі блізкімі.

— Звычайная сям'я, не магу сказаць, што мы моцна сябравалі. Але гэты год вельмі моцна нас з'яднаў — аказваецца, мы на адным баку. Цяпер ён мне піша: «Сястрычка, што б я без цябе рабіў?»

Пра погляды брата Юлія таксама мала ведала. Неяк ён распавядаў, як з таварышамі раздаваў адзенне для бяздомных — і іх пераследавалі міліцыянты. Тады яшчэ Юлія здзівілася: як можна пераследаваць за дабрачыннасць?

Пасля падзей 2010 года Дзмітрый разам з паплечнікам Ігарам Аліневічам з'ехаў з Беларусі. Пазней Ігара ў Маскве захапілі беларускія сілавікі і вярнулі ў Беларусь, дзе анархіста асудзілі на 8 гадоў за кінуты на тэрыторыю Расійскай амбасады ў Мінску «кактэйль Молатава». Дзмітрыю ўдалося ўцячы. 10 гадоў ён правёў у эміграцыі, шмат вандраваў. Родныя не ведалі, дзе ён, і не мелі магчымасці стасавацца з ім. Пазней у лістах да сястры Дзмітрый пісаў, што за час вандраванняў рабіў нататкі, паводле якіх плануе напісаць кнігу.

«Мая адаптацыя праходзіла ў цяжкіх і часам зневажальных умовах чужыны, раз-пораз пакідаючых мяне сам-насам з той бездапаможнасцю, у якой часам аказваюцца нязручныя для дзяржавы людзі (бездапаможнасць людзей часта абумоўлена нядзейснасцю дзяржаўнага апарату выконваць правы гэтых людзей, бо ўсе правы на годнае жыццё дзяржава разгрупавала ўнутры свайго ўрада). Вырашаць пастаўленыя мною задачы стала яшчэ складаней пасля афіцыйнага абвяшчэння мяне ў вышук, з-за чаго першы год майго знаходжання ў Расіі быў зведзены толькі да фізічнага выжывання ў сукупнасці з рознага роду непрыемнымі нечаканасцямі, складанасцямі ды іншымі сюрпрызамі», — пісаў у дзённіку Дзмітрый у 2012 годзе.

## Пра затрыманне даведаліся з тэлесюжэту

Калі Дзмітрыя затрымалі, родным пра гэта не паведамілі, хаця ён прасіў, каб патэлефанавалі сястры. Ніхто гэтага не зрабіў. Для Юліі затрыманне брата стала вельмі нечаканым, яна думала, што ён не ў Беларусі, таму была спакойная.

— Мне патэлефанавала стрыечная сястра і спытала: «Ты БТ глядзела?» Я кажу, што тэлевізар з 18 гадоў не гляджу, у мяне яго нават няма. «Там Дзіму паказваюць».

Ужо згаданае відэа АНТ Юлія знайшла ў інтэрнэце. Паглядзеўшы, увайшла ў ступар.

— Я вельмі спакойная, я і цяпер спакойная. Я не плачу, бо я ўпэўненая, што ён увесь свой тэрмін сядзець не будзе, усё гэта абавязкова скончыцца, — гаворыць сястра вязня.

Толькі праз месяц з сям'ёй звязаўся следчы з Салігорска для дачы паказанняў.

Па словах Юліі, брат сам у шоку ад таго, што яго абвінавачваюць у тэрарызме, бо ніхто не планаваў ніякіх ахвяр. Дый 10 гадоў таму падобныя дзеянні трактавалі не як «тэрарызм», а як «хуліганства».

Затрыманне яго і паплечнікаў было жорсткім. «Скажу нават

# «Не бывае ніякіх




**Журналіст і медыяменеджар Андрэй Аляксандраў больш за паўгода сядзіць на «Валадарцы». Ён піша ў лістах пра «дыстанцыйную працу» з цудоўным відам на сапраўдны замак, разважае пра «нармальнае жыццё» і персанальную адказнасць за агульныя наступствы.**

Калегі і сябры Андрэя Аляксандрава падзяліліся са «Свабодай» фрагментамі ягоных лістоў. Яны кажуць, што лісты Андрэя падымаюць ім настрой, «дабіваюць сваім талентам», заўжды пазітыўныя. Журналіст піша роўным акуратным почыркам, амаль друкаванымі літарамі. Часта падпісвае свае пасланні проста «Аляксандраў».

## «Ты ніколі не будзеш адзін»

***З ліста Андрэю Бастунцу, красавік 2021 года***

«Неяк знайшліся нагоды бубнець сабе пад нос клубны гімн "Ліверпуля" — "Ты ніколі не будзеш адзін". Словы падтрымкі з лістоў прымушалі спяваць — круціць яго на сваім "унутраным радыё", заглушаючы знешняе "Русское радио". Дакруціўся да таго, што славіў сябе на тым, што бубню па-беларуску. Выйшла крыху пафасна — але ж гэта гімн, у мяне ўсяго толькі пераклад (не страляйце ў піяніста).

*Калі пойдзеш праз шторм,*
*не схіляй галавы*
*і не бойся ты цемры, сябрук!*
*Ведай: скончыцца шторм,*
*свежы неба блакіт*
*ахіне сваёй песняй жаўрук!*
*Ідзі праз вятры*
*да святла цераз ноч,*
*не спыняй сваё сэрца, ідзі!*
*З надзеяй у душы годна з мараю кроч —*
*ты ніколі не будзеш адзін!*
*Ніколі не будзеш адзін».*

## «Стараюся заставацца сабой і не сумаваць»

***З ліста Ірыне Леўшынай, красавік 2021 года***

«Стараюся заставацца сабой і не сумаваць. Навіны, канечне, бадзёраць, мякка кажучы. Уяўляю сабе, колькі ў вас там працы і колькі выклікаў "вылазіць" штодня. І так рады бачыць у лістах добрую энергію, гатоўнасць працаваць і ні за што не спыняцца. Ні секунды не сумнявайся, што адказ на выклікі будзе менавіта такім.

У мяне ўсё стабільна. Радуюся, калі прыходзяць лісты — яны і кнігі цяпер складаюць змястоўную частку майго баўлення часу. Вельмі не хапае добрай журналістыкі і спакойнай аналітыкі. А ў астатнім больш-менш усяго хапае.

Сонца свеціць, вясна на дварэ, сумленне чыстае — жывём далей. Тым больш што ў свеце дакладна ёсць "і сонца, і спагада, і надзея" (радок з верша Алеся Ліпая. — Ірына Леўшына). І жывуць яны ў людзях — добрых, моцных, разумных і прыгожых людзях, якіх так шмат. А значыць, усё будзе добра».

## «Дабро, як і само жыццё, не варта адкладаць на потым»

***З ліста Ірыне Леўшынай, травень 2021 года***

«Я ўсё роўна жыву з вясновым настроем. А як сонца бліжэй да вечара, калі пачынае хіліцца да захаду, залівае яркім святлом вежы нашага замка! Хацеў напісаць "бачыла б ты" — але ж не, лепш проста павер на слова.

Лісты прыходзяць з розных краёў. Пісаць адказы — гэта цяпер галоўная і любімая праца. Так што я, як і вы, "працую дыстанцыйна". І рады, што ў многіх лістах — добры, пазітыўны настрой. І шмат жыцця ў многіх ягоных праявах, сапраўднага, нястрымнага, якое працягваецца.

І яшчэ ў лістах — вельмі-вельмі шмат дабра. Атрымліваю яго проста ў нейкім канцэнтраваным выглядзе, як вітаміны. Мне часам ад усіх добрых словаў становіцца няёмка — галоўным чынам ад асэнсавання таго, як мы ў нармальным жыцці саромеемся добрых словаў, прызнанняў у любові і захаплення іншымі людзьмі, іхнімі ўчынкамі і

# расцалую і буду плакаць»

так, што думалася, калі везлі ў Мінск, што мы сюды не даедзем і дзе-небудзь у Прыпяці, у самой рацэ, застанёмся. Добра, чаго ўжо тут. Можа, калі-небудзь пра гэта атрымаецца напісаць кнігу і расказаць ужо наўпрост. Пакуль, вось, сяджу тут, чапляюся за дзённае свята ў вакенцы, пішу табе ліст. Трэба і праз гэта прайсці», — пісаў Дзмітрый сястры.

Па справе Дзмітрыя родным амаль нічога не вядома, адзінае, што адбываецца — гэта працягванне тэрміну ўтрымання пад вартай. Пакуль — да 29 жніўня.

### Кожны ліст — гэта ўсмешка

Лісты вязню даходзяць толькі ад маці і сястры. За ўсе 9 месяцаў знаходжання ў СІЗА КДБ ад іншых людзей на сувязі прабілася ўсяго 4 лісты, хаця яму пішуць сотні. Юлія ад брата атрымала 36 лістоў, пры гэтым недзе згубілася тры і яшчэ адзін фрагмент.

— Па настроі ён увогуле малайчына. Ён не шкадуе, усё ўсведамляе, гатовы да тэрмінаў. У адным з лістоў напісаў, каб мы не перажывалі, не плакалі, а ўявілі, што ён выправіўся ў чарговую вандроўку. Але ён верыць, што ўсё будзе добра.

Юлія ў кожным лісце піша пра гэта брату. Маці перажывае зняволенне сына больш востра, увесь час плача, нават калі будзе суд — не паедзе, хоць не бачыла сына 10 гадоў. Іншыя сваякі адасобіліся. Таму Юлія ўвесь клопат па дапамозе брату ўзяла на сябе. Яна стасуецца з адвакатам, піша лісты, збірае і носіць перадачы.

— Часам я думаю: ну які ён тэрарыст? У перадачах просіць перадаваць яму выпечку, таму я ўвесь час нешта пяку, перадаю яму пірагі, шарлоткі, запяканкі, бліны. Аднойчы папрасіў дранікі, але іх перадаваць нельга. Высылала яму вельмі шмат фатаграфій з месцаў, дзе ён быў, ён усе Карпаты абышоў.

Кожны братаў ліст — гэта ўсмешка, зазначае Юлія. Яна гаворыць, што толькі аднойчы атрымала ад яго сумнае паведамленне, калі ён хварэў на каранавірус і ляжаў пад крапельніцай. Гэта было, калі Дзмітрый узімку знаходзіўся ў Навінках падчас экспертызы. Тады ж у яго выявіліся праблемы з ныркамі, і ў зняволенні ён займеў дыягназ «хранічны піеланефрыт». Апроч таго ў Дзмітрыя вельмі моцна стаў падаць зрок. Але бадзёрасці духу вязень не губляе.

«Што тут сказаць: нішто не можа быць сталым, усё аднойчы памяняецца і вернецца на свае месцы. Будзе ў нас яшчэ воля… Ёсць такі выраз: "Калі ёсць воля, значыць, ёсць і шлях". [...] Нічога, паспрабую выстаяць і прайсці гэтыя выпрабаванні не горш за іншых!.. Але трэба старацца прайсці і гэты адрэзак шляху без лішніх сентыментальнасцяў і пакут душы. Будзьце і вы моцнымі, мае родныя і дарагія!!! Я веру ў вашы сілы і вашу стойкасць, верце і вы ў мяне! Усё наладзіцца, утрасецца», — піша родным Дзмітрый Дубоўскі.

— Ён піша, што жыццё ў турме не заканчваецца, ён пройдзе гэты шлях і выйдзе. Я ганаруся братам, для мяне ён не тэрарыст, а герой, — зазначае Юлія.

Да яе прабіўся братаў ліст, дзе ён апісвае ўмовы і побыт у камеры. Вязень распавёў, што там стаіць сапраўднае пекла, і калі іх двойчы на дзень выводзяць у прыбіральню — гэта сапраўдная радасць, бо можна падыхаць паветрам.

### Як можна падтрымаць вязня ў СІЗА КДБ?

Лісты ў «амерыканку» даходзяць кепска, але гэта не значыць, што не трэба іх пісаць. Бывае, да святаў штосьці прабіваецца.

Значнай формай падтрымкі застаюцца перадачы і пасылкі. Мы папрасілі Юлію Дубоўскую распавесці, як робяцца перадачы ў СІЗА КДБ. Паводле яе, правілы такія: перадачы зняволенаму можна прыносіць два разы на месяц, і рабіць гэта могуць толькі сваякі. Выключэнне могуць зрабіць толькі ў тым выпадку, калі сам вязень напіша заяву аб тым, каб перадачы яму мог перадаваць іншы чалавек. У месяц можна перадаваць 30 кілаграмаў. Але нельга прынесці ў першы раз 5 кілаграмаў, а ў наступны — 25. Таму лепш за ўсё перадаваць двойчы па 15 кілаграмаў. Па прадуктах набор досыць абмежаваны: з хатняй ежы Юлія перадае толькі выпечку, а з садавіны дазволена перадаваць толькі яблыкі, грушы і лімоны. Можна перадаваць гародніну. Катлеты і адбіўныя, як і малочную прадукцыю, не прымуць, затое можна перадаць вяндліну ці запечанае мяса. Калі была спёка, сястра прыносіла Дзмітрыю замарожаную ваду ў бутэльцы — гэта вельмі ратавала. Але варта ўлічваць, што вада таксама ўваходзіць у ліміт перадач па вазе.

Медыкаменты звычайна бяруць усе, але ці перададуць іх зняволенаму, вызначыць урач.

Дадаткова можна высылаць вязням пасылкі, іх вага не ўваходзіць у штомесячныя 30 кілаграмаў перадач. Напрыклад, Юлія высылае пасылкі брату прыкладна двойчы на месяц. Закон не забараняе адпраўляць у СІЗА КДБ пасылкі не сваякам, але прапускаюць далёка не ўсе з іх. Таксама няма логікі ў тым, як вырашаюць прымаць ці не тыя ці іншыя рэчы. Так, Дзмітрыю спрабавалі адпраўляць васковыя крэйды і фламастэры — іх не прапусцілі. Але прапусцілі нататнік.

Цяпер вельмі актуальныя такія рэчы, як вентылятар. Каб яго перадалі, вязень мусіць напісаць заяву, гэтаксама і з перадачай тэлевізара ці машынкі для стрыжкі валасоў. Але прымуць ці не — гэта таксама невядома.




Юлія ўзгадвае нядаўні выпадак, калі прынесла брату перадачу. Тады адбылася аблава на tut.by, і ля СІЗА ўтварылася досыць вялікая чарга.

— Тут пад'язджае бус, з яго выходзяць амапаўцы і запытваюцца, чаму мы тут сабраліся, чаму нас так шмат. Потым амапавец сказаў, што на нас паскардзіліся супрацоўнікі КДБ.

Яшчэ раней, у лютым, затрыманым па «тэрарыстычным» артыкуле забаранілі адпраўляць грашовыя пераводы. Цяпер зрабіць гэтага не могуць нават родныя. Але, гаворыць Юлія, грошы там траціць асабліва няма на што. Збірае перадачы і падпіску на газеты афармляе яна сама. Адзінае, на што ішлі грошы, — гэта кнігі. Цяпер Дзмітрый не можа іх сабе набываць.

29 ліпеня Дзмітрыю Дубоўскаму спаўнілася 35 гадоў. Да дня народзінаў Юлія перадала брату пажаданне: каб ён верыў, што ўсё гэта скончыцца, быў моцным і памятаў, што родныя яго чакаюць і ганарацца ім.

— Калі ён выйдзе, я абдыму яго, расцалую, і тады ўжо, напэўна, буду плакаць. А Дзіма пісаў, што знойдзе ўсіх людзей, якія яго падтрымлівалі, збярэ іх разам на прыродзе і абавязкова ўсім аддзячыць.

Затрыманыя анархісты Дзмітрый Дубоўскі, Ігар Аліневіч, Дзмітрый Разановіч і Сяргей Раманаў не прызнаныя палітвязнямі. Вы можаце дасылаць ім лісты падтрымкі і паштоўкі на адрас: Галоўпаштамт, а\с 8, Мінск, 220050.

# “лепшых часоў”»

дасягненнямі, як быццам запасім іх на потым. А гэтае "потым" часта надыходзіць знянацку — і чалавек ужо недзе далёка.

Я цяпер дакладна ведаю, што не варта чакаць, пакуль адрасат добрых, важных спраў сыдзе ці хаця б сядзе ў турму. Дабро, як і само жыццё, не варта адкладаць на потым. Не бывае ніякіх "лепшых часоў", чым тыя, якія ёсць у нас. А значыць, мы ўсе — шчаслівыя людзі».

### «Сёння адціснуўся 50 разоў за адзін падыход»

*З ліста Ірыне Леўшынай, чэрвень 2021 года*

«Што ж, сувязь не толькі наладзілася, але яшчэ і паскорылася! І гэта хораша… Што няхораша, дык гэта вось усё з навінаў. Чакана, але ўсё роўна бязрадасна. І трывожыць тое, што канца-краю не відаць і будзе працягвацца. Таму сур'ёзна перажываю за вас.

Лета будзе спякотнае. Эпікрыз ужо відавочны і просты. Трэба ўсё гэта перажыць. Перажыць у нармальным стане. І кожны сам вызначае, што значыць "нармальны стан", самастойна.

А ў мяне тым часам усё стабільна і без зменаў. З навінаў: сёння адціснуўся 50 разоў за адзін падыход. Перачытаў каторы ўжо раз "Майстра і Маргарыту" (чартоўска боская кніга, абажаю яе), цяпер буду чытаць "Ківач Фуко" Умбэрта Эка і біяграфію Джэфа Бэзаса (цікава, як становяцца самымі багатымі людзьмі ў свеце). Гэта ашаламляльна, хачу так умець, калі вырасту.

Дыстанцыйную працу з відам на замак, канечне, я раней уяўляў крыху інакш. Але трэба быць адкрытым новаму. Успамінаю выраз з "Форэста Гампа": "Жыццё — як скрыня з цукеркамі, ніколі не ведаеш, якая табе трапіцца". Напэўна, галоўнае пры гэтым — успрымаць усё, што б табе ні трапілася, як цукерку.

Вы ўсе вялікія малайцы. Пры нагодзе — мае самыя шчырыя словы падтрымкі і салідарнасці з калегамі з TUT. Трэба перажыць гэты час, перажыць і не згубіцца, незалежна ад фармату "дыстанцыйнай працы", з вежачкамі ці без. Так што жывём далей, трымаемся і трымаем».

### «Перачытваю "Кампраміс" Даўлатава»

*З ліста Вользе, 1 ліпеня 2021 года*

«Каты — гэта цудоўна. Але я ж у апошнія гады, уяўляеш, стаў сабакаводам. З'явіўся ў мяне добры сябар, клічуць Тоні (у арыгінале Tawny — як партвейн, ну а як інакш), нацыянальнасцю — джэк-расэл-тэр'ер, характарам — махнаты ёлупень. Ужо пяць гадоў яму. Цяпер жыве "ў бабулі ў вёсцы", класіка жанру.

Гляджу футбол у тэлевізары, сачу за анамнезам, чытаю кнігі. Столькі добрых кніг не чытана — не перачытана! Наганяю, цяпер для гэтага ёсць, нарэшце, "вольны час". Цяпер вось перачытваю "Кампраміс" Даўлатава, узгадваю старыя часы працы ў рэдакцыі газеты, якая скончылася, пераезд у Мінск і наш вясёлы БАЖ. І Віндзар, так. Нядаўна яго бачыў у тэлевізары. Трэба будзе з'ездзіць».

### «Рэжым — гэта мы ўсе»

*З ліста Ірыне, 26 ліпеня 2021 года*

«Вельмі ўсцешаны быў атрымаць ваш ліст, дзякуй! Ён зноў са светлым сюрпрызам — раней ніколі не думаў, што будзе так цёпла на душы ад выцінанкі :-)

Я вельмі люблю чытаць лісты, такія рэпартажы з нармальнага жыцця — я іх яшчэ называю "альтэрнатыўным тэлебачаннем" альбо "маім персанальным Радыё Свабода", бо калі чытаю іх, то ўяўляю інтанацыі сяброў і калегаў ці візуалізую сабе ў галаве карцінкі з гэтых лістоў… Нармальнае такое "кіно" атрымліваецца :-) Нібыта сам з'ездзіў.

Шмат маіх знаёмых, паколькі межы закрытыя, сёлета актыўна вандруюць па Беларусі. Атрымліваю багата лістоў са словамі шчырага захаплення і рознымі "вау!" — людзі адкрываюць для сябе родную краіну і праз гэта любяць яе ўсё мацней. Мяне гэта радуе.

Наш вялікі суайчыннік Васіль Быкаў пісаў, чым нацыяналіст адрозніваецца ад патрыёта: нацыяналіст ненавідзіць чужое, а патрыёт любіць сваё. Я ўпэўнены, што любоў і дабрыня мацнейшыя за нянавісць і злосць.

Я бачу ў нашай краіне шмат патрыётаў. І ўсцешаны, што людзі не проста любяць сваё, але дбаюць пра сваё, дзейнічаюць, каб абараніць сваё, і, галоўнае, усё болей думаюць, разважаюць і асэнсоўваюць тое, што з намі адбываецца; як мы як грамадства і як нацыя ўсе разам аказаліся там, дзе мы цяпер; як нам перапрацаваць наш супольны досвед — і натхняльны, і траўматычны — і куды рушыць далей.

І мне вельмі блізкія вашыя развагі пра індывідуальную адказнасць за агульныя наступствы. Заўсёды пра гэта разважаў, нават выклікаў абурэнне часткі суайчыннікаў сваім тэзісам "Рэжым — гэта мы ўсе", а цяпер, калі з'явілася столькі "вольнага" часу, думаю пра гэта яшчэ больш; пра тое, што я мог бы быць больш цярплівым і пераканаўчым, калі меў рацыю; пра тое, як зрабіць так, каб людзі чулі і верылі тым, хто разумны, а не тым, хто гучны і папулярны; пра тое, каб рабіць эфектыўнае, а не "хоць нешта".

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІЗРАІЛЬ. Марозіва супраць дзяржавы

Продаж марозіва можа падацца трывіяльнай праблемай, але не ў Ізраілі. Амерыканская кампанія Ben&Jerry's абвясціла, што мае планы спыніць продаж марозіва ў яўрэйскіх паселішчах на Заходнім беразе ракі Іардан, і заявіла, што праца там «несумяшчальная з іх маральнымі каштоўнасцямі».

Справа ў тым, што гэтыя тэрыторыі фармальна з'яўляюцца землямі палесцінцаў, якія Ізраіль акупаваў. Рашэнне выклікала абураную рэакцыю на самым высокім узроўні. Прэм'ер-міністр Ізраіля Нафталі Бенет сказаў, што байкот — «маральна няправільны», і назваў марозіва, якое вырабляе Ben&Jerry, «антыізраільскім». Яшчэ далей пайшоў ізраільскі МЗС, які параўнаў кампанію з «нацысцкімі калабарантамі». Але ўсіх пераплюнуў пасол Ізраіля ў ЗША. На яго думку, адмова прадаваць марозіва з'яўляецца не толькі нападам на Ізраіль, але і фактычна ўяўляе сабой антысеміцкі напад на ўвесь яўрэйскі народ.

Нягледзячы на магутны ціск, пакуль фірма не змяніла папярэдняе рашэнне.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Мітынгі толькі ў дварах

У Расіі арганізатары мітынгаў цяпер абавязаны даваць фінансавую справаздачу пасля яго правядзення. Гэта вынікае з пастановы МУС РФ.

З гэтага часу на працягу 45 дзён пасля мерапрыемства арганізатары акцый мусяць даваць фінансавую справаздачу. Ім прадпісваецца ўказваць суму сабраных сродкаў, пералік выдаткаў з указаннем падрадчыкаў і аказаных імі паслуг, пацверджаных копіямі плацежных дакументаў.

Неабходнасць здаваць у МУС справаздачы па публічных акцыях колькасцю больш за 500 удзельнікаў з'явілася ў заканадаўстве яшчэ ў 2020 годзе, але форма дакументацыі была тады яшчэ не зацверджана. Тое, што пра гэтую ідэю прыгадалі цяпер, шмат хто тлумачаць падрыхтоўкай да восеньскіх думскіх выбараў.

Так ці інакш, але праводзіць акцыі ў колькасці больш за 500 чалавек цяпер у Расіі будзе цяжка. Таму, як канстатуюць некаторыя палітолагі, мітынгі могуць перамясціцца з вуліц у двары. У тым ліку таму, што абавязак даваць справаздачу аднaзначна спалохае пастаўшчыкоў гукаўзмацняльнай тэхнікі.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Урад фарміруецца ў Расіі?

Ва ўладных кабінетах Расіі курсіруе ідэя стварэння «ўрада Украіны ў выгнанні», які быў бы абвешчаны легітымным правапераемнікам Украінскай ССР.

Пра гэта заявіў украінскі палітолаг Васіль Вакараў, які жыве ў Маскве і мае кантакты ў Крамлі. «Ёсць ідэя, якую тут агучваюць не адзін раз: «А давайце створым або дапаможам стварыць урад Украіны ў выгнанні. Тым больш, што ў Маскве шмат былых украінскіх палітыкаў: Арбузаў, Азараў, Януковіч, Клюеў», — кажа эксперт.

Цікава, што працэс стварэння такога цэнтра можа паскорыць нядаўняя сустрэча Байдэна і Ціханоўскай. Макараў тлумачыць гэта так: «Бачыце, Байдэн жа сустракаецца з Ціханоўскай, ён лічыць яе лідарам Беларусі, а не Лукашэнку. Дык давайце і мы дапаможам стварыць украінскі ўрад за мяжой, і будзем з ім выбудоўваць адносіны. Гэта адна з ідэй у Расійскай Федэрацыі, якая накіравана супраць цяперашняй украінскай улады».

**Паводле расійскай прэсы**

### КУБА. Судзяць «Кубамайдан»



На Кубе пачаліся судовыя працэсы над удзельнікамі масавых беспарадкаў 11 ліпеня. Тады людзі выйшлі на вуліцы, пратэстуючы супраць дэфіцыту, — але хваляванні хутка набылі палітычны характар.

Рэагуючы на пратэст, улады вывелі на вуліцу сваіх прыхільнікаў і мабілізавалі сілавы апарат. У ноч з 11 на 12 ліпеня былі праведзены першыя масавыя арышты, якія, па сутнасці, працягваюцца дасюль. Калі верыць кубінскім СМІ ў эміграцыі, у рамках хапуна было затрымана 600 чалавек. Цяпер іх пачалі судзіць у закрытым рэжыме.

Як правіла, усім падсудным выпісваюць ці год турмы, ці год хатняга арышту. На першы погляд, здаецца, магло быць і горш. Аднак трэба памятаць, што ўсе злачынствы асуджаных кубінцаў палягалі ў тым, што яны ўдзельнічалі ў стыхійным несанкцыянаваным мітынгу.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.aljazeera.com

# «На страйк выходзяць нават дворнікі»

Алег НОВІКАЎ

**У Казахстане — рэзкі і нечаканы выбух працоўных пратэстаў, якія імкліва пашыраюцца на ўсю краіну.**

...«Па цэнтральнай плошчы ішла група ў чорнай вопратцы і страляла ва ўсіх людзей, якія стаялі на плошчы. На працягу 20–30 хвілін, пакуль яны ішлі, бесперапынку вялася страляніна па людзях... Трупы забітых на плошчы ляжалі штабялямі адзін на адным каля мясцовага морга, у якім усё было забіта... Прыкладна 400 чалавек на калена ў вадзе ў снежні стаялі басанож каля мясцовага ІВС. Іх збівалі, а потым вызначалі, каго прызначыць адказным за беспарадкі... Па вуліцах курсіравалі машыны, з якіх стралялі па людзях. Напрыклад, з такой машыны была забітая жанчына, маці чацвярых дзяцей, якая 16 снежня проста стаяла каля банкамата»...

Гэта — фрагменты расповедаў сведкаў падзей 16–17 снежня 2011 года ў горадзе Жанаазен. Тады 16 чалавек (паводле афіцыйных даных) загінулі, і больш за 100 былі параненыя пасля таго, як паліцыя адкрыла агонь па натоўпе. Прасправе папярэднічаў доўгі страйк нафтавікоў з патрабаваннем павышэння заробкаў і паляпшэння побытавых умоў.

Апісаныя вышэй сцэны гвалту настолькі брутальныя, што сутнасць аперацыі з пункту гледжання палітычнага прагматызму цяжка зразумець. Магчыма, хіба адзінае тлумачэнне — улады жадалі надаць, і прычым надоўга, урок забастоўшчыкам і тым, хто іх падтрымліваў. Калі гэта так, то план не спрацаваў. Гэтым летам Жанаазен зноў страйкуе. Прычым, яшчэ больш маштабна, чым у 2011-м.

Усё пачалося 30 чэрвеня з забастоўкі рабочых прадпрыемства ТАА «Кезбі», якое займаецца бурэннем і абслугоўваннем тэхнікі на нафтавым радовішчы. Прычынай страйку сталі нізкія заробкі, якія тут ледзь дасягаюць 300 долараў у эквіваленце. Акрамя таго, людзі працуюць у вельмі складаных умовах на зношаным, яшчэ савецкім абсталяванні, не маючы нават спецвопраткі і патрэбных інструментаў.

У выніку цярпенне 1200 рабочых лопнула, і яны запатрабавалі падвышэння заробкаў удвая, а таксама паляпшэння ўмоваў працы. Да іх стыхійна пачалі далучацца калектывы суседніх прадпрыемстваў. Працадаўцы і мясцовыя ўлады спачатку імкнуліся падавіць выступы, ладзілі сустрэч з працоўнымі, але ў выніку забастоўка перакінулася на іншыя прадпрыемствы.

У Жанаазене з 19 ліпеня спынілі працу адразу шэсць прадпрыемстваў. Пры гэтым на страйк, калі верыць рэпартажам з месца, выходзяць нават дворнікі. Самае цікавае — тое, што, як высвятляецца, страйкі людзей непрыкметных прафесій і малых калектываў ствараюць большую пагрозу для рэжыму. Патрабаванні малых калектываў няцяжка выканаць. Аднак навіна пра тое, што нейкі страйкам дамогся перамогі, выклікае энтузіязм сярод іншых працоўных і з'яўляецца стымулам для новых пратэстаў.

На мяжы ліпеня-жніўня ў страйку прымалі ўдзел працоўныя больш за дзесяць рэгіянальных прадпрыемстваў. У самім абласным цэнтры — горадзе Актау — 24 ліпеня мясцовыя актывісты выйшлі на вуліцу і патрабавалі прафсаюзных свабодаў.

Першапачаткова лічылася, што заходняй частай Казахстану, дзе знаходзіцца эпіцэнтр руху, — пратэсты і абмяжуюцца. Усё з-за спецыфікі мясцовага менталітэту. Заходні рэгіён з'яўляецца донарам дзяржаўнага бюджэту. Таму мясцовыя жыхары шчыра не разумеюць, чаму рэгіён-донар жыве так бедна. І гэта, безумоўна, выклікае незадавальненне.

Аднак цяпер бунт нечакана выйшаў за межы вобласці. 8 ліпеня забаставалі чыгуначнікі Шымкенту, а 13 ліпеня адмовіліся спускацца пад зямлю метрабудаўнікі Алматы. 22 ліпеня выйшлі на страйк медыкі хуткай дапамогі ў Алматы і кіроўцы аўтапарка ў Сяміпалацінску. Усе пратэсты аб'ядноўваюць агульныя патрабаванні — павышэнне заработнай платы і паляпшэнне ўмоў працы.

Трэба сказаць, што гэтым разам улады, відавочна памятаючы пра негатыўны рэзананс на расстрэл у снежні 2011-га, імкнуцца не прыцягваюць сілавікоў. Як мінімум, пакуль. Іх місію выконваюць нанятыя паўкрымінальныя асобы. Яны тэрарызуюць сходы страйкоўцаў, што часам правакуе сутычкі.

Ва ўладных кабінетах стаўка, падаецца, робіцца, хутчэй, на інфармацыйную вайну. Сярод страйкоўцаў распаўсюджваецца інфармацыя, што арганізатараў пратэсту вызвалілі ад пасад, а замест іх на працу прынялі іншых людзей. У СМІ гучаць пагрозы масавых звальненняў і падачы ў суд пазоваў аб прызнанні ўсіх забастовак незаконнымі. Актывістаў палохаюць цэлым букетам крымінальных артыкулаў — за «распальванне сацыяльнай варожасці», «арганізацыю і заклікі да незаконнай страйку», «удзел у незаконным страйку» і гэтак далей.

Зрэшты, выніковая пазіцыя і крокі ўлады будуць залежаць ад ступені палітызацыі пратэсту. Наколькі здольныя страйкі прывесці да росту палітычных пратэстаў у краіне? Як прызнае Айнур Курманаў, адзін з лідараў Рабочага саюза Казахстана, пакуль страйкі досыць апалітычныя. Аднак ён таксама адзначае важны момант: выканаць многія патрабаванні страйкамаў немагчыма без перагляду дзяржаўных кантрактаў з амерыканскімі, кітайскімі і еўрапейскімі кампаніямі, якія эксплуатуюць казахстанскія радовішчы. Цяжка ўявіць, што ўлада рызыкне патрабаваць перагляду тых дамоваў. Таму, на думку актывіста, «страйкавая хваля будзе толькі нарастаць». Пытанне толькі ў тым, калі сацыяльная незадаволенасць можа рэальна перарасці ў палітычны крызіс.

# «З гонарам неслі званне савецкага грамадзяніна»

Алег НОВІКАЎ

**Няма сумневаў, што наверсе зробяць высновы з гісторыі з Ціманоўскай. Хутчэй за ўсё, нас чакае вяртанне да некаторых савецкіх практык кантролю над спартоўцамі падчас турніраў за мяжой.**

Праблема кантролю над спартоўцамі падчас замежных турнэ пачала ўзнікаць у СССР прыкладна ў 1950-я гады, калі савецкі спорт стаў выходзіць на міжнародную арэну. Прычым, вырашыць гэтую праблему не ўдалося да самага канца існавання Савецкага Саюза. Гісторыкі з іроніяй успамінаюць казус на пачатку 1980-х гадоў, калі была прынятая чарговая пастанова аб узмацненні правіл паводзін спартсменаў у замежных турах. Літаральна на наступны дзень прыйшло паведамленне пра тое, як нашы хакеісты спрабавалі нешта сцягнуць у трох фінскіх крамах.

Відавочна, што прычыну правалу трэба шукаць у хібах першапачатковай фармуліроўкі місіі савецкага спартоўца за мяжой. Паколькі гэтыя людзі прадстаўлялі СССР, ад іх патрабавалі на кожным кроку сімвалізаваць самую перадавую краіну ў свеце. Такая ўстаноўка прадугледжвала выкананне часам проста невыканальных правілаў.

Дзевяціразовая алімпійская чэмпіёнка Ларыса Латыніна ўспаміналa маразматычны выпадак у Капенгагене ў 1965 годзе ў гатэлі, куды засялілася зборная СССР па гімнастыцы. Раптам кіраўніцтва спахапілася, што ў сваім нумары няма дзвюх 16-гадовых гімнастак. Паўстала страшная версія: яны спусціліся ў бар! Але нават у бары іх не аказалася, што генеравала яшчэ больш жудасныя здагадкі. У выніку ўсё аказалася значна больш празаічна. Пакуль іх шукалі, маладыя спартсменкі ўвесь час каталіся ў ліфце, захапляліся яго дызайнам і тэхнічнымі якасцямі.

Зрэшты, перш чым выслухаць інструкцыю пра тое, як паводзіць сябе за кардонам, спартоўцу трэба было прайсці нялёгкі шлях збірання паперак і праходжання шматлікіх камісій. А паколькі ў выніку таксама ўлічвалася меркаванне кампетэнтных органаў і парткамаў, усе сабраныя дакументы, рэкамендацыі і даведкі маглі ў апошні момантператварыцца ў макулатуру.

Тое, што ўдзельнікаў спартовых замежных паездак зацвярджалі на самым высокім узроўні, гісторыкі тлумачаць страхам функцыянераў. Яны надзвычай баяліся, што сустрэча з Захадам можа пахіснуць у спартсмена веру ў перамогу сацыялізму, і той адразу трапіць пад уплыў буржуазнага ладу жыцця.

Таму ад кіраўнікоў дэлегацый патрабавалі дэталёвых справаздач пра паводзіны чальцоў каманд. Часам такія рапарты мелі незвычайную рэакцыю. Напрыклад, старшыня КДБ Сяроў, калі даведаўся пра калектыўныя п'янкі спартсменаў, рэкамендаваў прыцягнуць іх да грамадска карыснай працы паміж спаборніцтвамі. Вялікае раздражненне ў чыноўнікаў у 1970-я гады выклікала тое, што спартсмены вазілі шмат імпартных рэчаў сваякам і сябрам — і нібы дэманстравалі гэтым наяўнасць у краіне Саветаў сур'ёзных матэрыяльных праблем.

Безумоўна, у тых рапартах павінна была быць адлюстраваная і палітычная свядомасць спартсменаў. Часам даводзілася падымаць яе штучна. Так, перад чэмпіянатам па лёгкай атлетыцы ў 1982-м у Грэцыі да каманды СССР прымацавалі інструктара аддзела прапаганды ЦК КПСС «для ўзмацнення ідэалагічнай падрыхтоўкі». Але часцяком гэта прыводзіла да фармалізму, калі ўсе рапарты заканчваліся шаблоннай фразай: «Усе таварышы за мяжой з гонарам неслі званне савецкага грамадзяніна».

Калі за куплю часопісаў з фота аголеных жанчын, продаж гарэлкі ці нецвярозы стан можна было атрымаць строгую вымову, то кантакты з замежнікамі цягнулі на больш сур'ёзныя наступствы. Вялікі перапалох выклікала ў ЦК КПСС размова трэнера савецкіх хакеістаў Усевалада Баброва з нейкай рускамоўнай жанчынай у холе заходненямецкага гатэля. Баброву, як культавай асобе, гэта ўсё ж прабачылі. Для іншых размова з імігрантамі часцяком заканчвалася забаронай на візіты нават у краіны сацыялістычнага лагера.

Ну і, вядома, самым буйным скандалам былі ўцёкі спартсменаў за мяжу. Аказваецца, такіх выпадкаў хапала. У 1967-м з Румыніі не вярнуліся два гульцы ў водная пола, у 1971-м у Швецыі застаўся эстонскі фехтавальшчык. Найбольш тытулаваным невяртанцам, напэўна, з'яўляецца шматразовы чэмпіён СССР па шахматах Віктар Карчны.

Таксама асабняком стаяць уцёкі двухразовых алімпійскіх чэмпіёнаў у парным катанні Алега Пратапопава і Людмілы Белавусавай. Адмова апошніх вяртацца з гастроляў лядовага балета ў Швейцарыі стала шокам для спартовага кіраўніцтва СССР. Усё праз тое, што генсек Брэжнеў быў вялікім прыхільнікам фігурнага катання. Зрэшты, у Крамлі маглі супакоіць сябе тым, што ў Венгрыі або Чэхаславакіі на Захад перабягалі ледзь не цэлыя спартыўныя калектывы.

Выпадкі з невяртанцам былі моцным псіхалагічным ударам для савецкага кіраўніцтва. Таму ніякая інфармацыя пра тое, што здаралася, у прэсу не трапляла. Фанатам спорту даводзілася толькі здагадвацца, куды, напрыклад, падзеліся некалькі баскетбалістаў пасля турнэ зборнай па ЗША ў 1973-м. Любая інфармацыя пра тых, хто не вярнуўся, прыбіралася са спартыўных даведнікаў. Уцёкі таксама выклікалі ў некаторых функцыянераў сапраўдную параноймю. Ад куратараў патрабавалі ўсталяваць больш жорсткую дысцыпліну і абмежаваць выпадкі выхаду спартсменаў з гатэляў. Павялічвалася колькасць супрацоўнікаў «нябачнага фронту», якія суправаджалі каманду. Калі кагосьці хацця б падазравалі ў намеры здрадзіць радзіме, яго адразу адпраўлялі назад. Зрэшты, калі меркаваць па мемуарах, асаблівага эфекту ў атмасферы ўсеагульнага пафізму 70–80-х гадоў гэта не мела.

Так ці інакш, узнікае пытанне: ці магчыма адрадзіць нейкія савецкія напрацоўкі ў цяперашняй беларускай зборнай, каб пазбегнуць новых скандалаў? Напэўна, можна, хаця існуе вопыт зборных Кубы або КНДР. Там таксама дзейнічае суровы нагляд за спартоўцамі, што не замінае ім рэгулярна бегчы на Захад. У любым выпадку, дысцыплінарныя меры і прамыўка мазгоў на колькасці медалёў можа і не адбіцца.



Матч прэтэндэнтаў на першынства свету ў 1974 годзе паміж Віктарам Карчным з Анатолем Карпавым. 2 гады да ўцёкаў

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Іраклій Гарыбашвілі



Кіраўнік урада Грузіі, які фарміруе партыя «Грузінская мара», сутыкнуўся з незвычайнай праблемай. Па краіне пракацілася серыя замахаў і нападаў на грамадзян заходніх краін. Спачатку ў цэнтры Тбілісі адбыўся напад на турыста з Польшчы. Затым былі абрабаваныя амерыканцы і іспанцы. А пазней у Батумі збілі дыджэя з ФРГ. Але трагедыя здарылася з 31-гадовай аўстралійкай, яна была згвалтаваная і па-зверску забітая ў сталічнай зоне адпачынку.

МУС працуе па ўсіх напрамках, і нават ловіць кагосьці. Але адначасова ў інфармацыйную прастору ідзе інтэнсіўны «ўкід». Маўляў, тое, што адбываецца, — гэта рэалізацыя плана, які павінен адпрэчыць заходніх турыстаў ад Грузіі, выклікаць расчараванне Захаду ў Грузіі з далёкімі наступствамі — цалкам ізаляваць краіну ад Еўропы і вярнуць яе пад крыло Масквы. Апазіцыя нават намякае, што за гэтым планам стаіць сама ўлада — яе дыктатарскія замашкі непрымальныя для цывілізаванага свету.

У прынцыпе, такія абвінавачванні не надта абгрунтаваныя, аднак яны гучаць на фоне паслаблення кантактаў Грузіі з Еўропай і ЗША. З-за нежадання «Грузінскай мары» дамаўляцца з апазіцыяй і ростам гамафобіі ў грузінскім грамадстве, у Еўропе гавораць пра перагляд фармату адносінаў, а Вашынгтон нават кажа пра санкцыі. Гэта натхняе апазіцыю, якая спадзяецца на падтрымку заходніх паслоў.

Зрэшты, не факт, што на фоне росту геапалітычных апетытаў Турцыі Захад перастане падтрымліваць цесныя сувязі з урадам Гарыбашвілі.

### Мін Аун Хлайн



Галоўнакамандуючы арміі М'янмы і лідар хунты, якая прыйшла да ўлады пасля лютаўскага перавароту, нечакана для ўсіх анансаваў правядзенне ў краіне выбараў. Праўда, яны пройдуць няхутка — толькі 23 жніўня 2023 года. Да гэтага часу краінай будзе кіраваць часовы ўрад, які ўзначаліць, канешне, сам Мін Аун Хлайн.

Лічыцца, што хунта пайшла на такі ход не ад добрага жыцця. Адразу пасля путчу М'янму ахапілі хваляванні і пратэсты. Падаўляючы іх, ваенныя забілі, паводле інфармацыі мясцовых назіральнікаў, больш за 900 чалавек. Маштабы бедства яшчэ пагоршыла і пандэмія. Медыкі ў шмат якіх шпіталях сышлі з працы ў знак пратэсту супраць палітычных рэпрэсій. Паводле прагнозу Сусветнага банка, за гэты год эканоміка краіны абрынецца на 18%.

Будучы не ў стане збіць хвалю дэманстрацый, генералы выказалі гатоўнасць да нейкага кампрамісу і нават дыялогу з апанентамі пры пасярэдніцтве спецыяльнага прадстаўніка, якога прызначыць АСЕАН (Асацыяцыя краін Паўднёва-Усходняй Азіі). Праўда, пытанне ў тым, наколькі перспектыўным будзе такі дыялог. Відавочна, што апазіцыя адразу запатрабуе вызвалення сваёй лідаркі Аун Сан Су Чжы, якая знаходзіцца пад арыштам. Цяпер Сан Су Чжы прад'яўлены шэраг абвінавачанняў — ад парушэнняў абмежаванняў у сувязі з каронавірусам да нелегальнага ўвозу медыцынскіх апаратаў. На думку спецыялістаў, лідарцы апазіцыі пагражае не менш за дзесяць гадоў турмы.

### Олаф Шольц



Экс-віцэ-канцлер і міністр фінансаў ФРГ, кандыдат у канцлеры Германіі ад нямецкіх эсдэкаў трапіў у парадаксальную сітуацыю. Апошнія апытанні паказваюць, што ён з'яўляецца найбольш прыдатным кандыдатам у канцлеры Германіі. Ён апярэджвае нават Арміна Лашэта, чый Хрысціянска-дэмакратычны саюз (CDU) з'яўляецца фаварытам на выбарах.

Выбіцца ў лідары Шольцу, безумоўна, дапамаглі пралікі супернікаў. Урад CDU не можа справіцца з паводкамі. У інтэрнэт трапіла дыскрэдытуючае відэа, на якім Лашэт смяецца ў той час, як прэзідэнт Германіі кажа поўную смутку прамову пра ахвяраў стыхіі. Да таго ж немцы ацанілі шырокі кіраўнічы вопыт палітыка.

Але рост даверу да Шольца не моцна адбіваецца на рэйтынгах сацыял-дэмакратаў, якія прывабныя толькі 18% электарату.

У любым выпадку, для сацыял-дэмакратаў апошнія апытанні можна назваць прамежкавым поспехам: партыя не першы год спрабуе выйсці з крызісу, выклікага занадта доўгім знаходжаннем у кіруючай кааліцыі з CDU у ролі малодшага партнёра. Калі партыя сыдзе ў апазіцыю, то з такім лідарам, як Шольц, яна мае шанцы вярнуцца да ўлады на наступных выбарах.

# Апошняя вандроўка

Ніна СТУЖЫНСКАЯ

**Беларуская рэвалюцыя (ці контррэвалюцыя) ў 1921 годзе сышла ў падполле, змяніліся формы барацьбы з савецкай уладай. Сталіцу накрыла шпіёнская паводка. На мінскіх вуліцах вольна пачуваліся агенты з-за мяжы, нават пазнавалі адзін аднаго пры сустрэчах.**

Даволі паспяхова працавала выведка «Зялёнага Дуба». Укараненне ў савецкія/антысавецкія арганізацыі (аддзелы), узначаленне іх і маніпуляванне дзейнасцю — такі метад удала выкарыстоўваўся ўсімі бакамі для знішчэння ворага. Памежныя тэрыторыі Беларусі былі ў цэнтры ўвагі як антысавецкіх замежных гульцоў, так і падначаленых Дзяржынскага.

## Савінкаўская агентура

З лёгкай рукі спрактыкаванага палітыка і тэрарыста Савінкава пачыналася ўсё някепска. Разгалінаваная сетка ячэек яго Народнага саюза абароны Радзімы і свабоды (НСАРіС) ахапіла Мінскую і ўсходнія губерні Беларусі. Савінкаўская агентура прасачылася ў савецкія вайсковыя і выканаўчыя ўладныя ўстановы. Савінкаў і яго саюзнікі распрацавалі нават план агульнага паўстання з мэтай захопу ўлады ў Беларусі як калідора прасоўвання на расійскія сталіцы — і паспрабавалі яго здзейсніць напрыканцы лета 1921-га. Але праект праваліўся, добра спрацавала чэкісцкая агентура, «краты» падкапалі і абрынулі ўсю сетку падпольных камітэтаў.

Блізкі сябра Савінкава, паплечнік па арганізацыі тэрорных акцый (нават замах на Леніна рабіў) Жорж Сямёнаў быў перавербаваны ведамствам Дзяржынскага. У Мінску, Ігумене, Слуцку, Гомелі, нават у Капаткевічах і шмат дзе яшчэ рыхтаваліся да паўстання, чакалі сігналу з Варшавы, дзе знаходзіўся галоўны штаб Савінкава. Але час «Х» не настаў. Планы паўстанцаў, імёны кіраўнікоў, спісы ўдзельнікаў Сямёнаў перадаваў у Маскву. Маштаб падрыхтоўкі паўстання, мабілізацыя вялікай колькасці людзей і сёння ўражвае, як і здзіўляе мізэрны вынік акцыі. Пасля арышту Савінкава яго былыя сябры і паплечнікі назвалі гэтага няўдалага палітыка «чалавекам фразы і позы», які бяздарна распарадзіўся каласальнымі фінансавымі і людскімі рэсурсамі.

## Дзяўчына з Маладзечна

А вось дзеянні сціплай беларускай дзяўчынкі, імя якой засталося толькі ў аналах спецслужб, заслугоўваюць пашаны і добрай памяці. У сваю апошнюю вандроўку Ганна Доўгерт (Доўгерд) выправілася 100 гадоў таму, у спякотны дзень лета 1921 года. 17 жніўня яна пакінула Маладзечна і накіравалася ў Мінск.

Маладзечна па тых часах быў важным стратэгічным пунктам беларускай дыверсійнай арганізацыі «Зялёны Дуб» (поўная назва — «Беларуская сялянская партыя Зялёнага Дуба», далей «ЗД»). Тут месціўся штаб на чале з яго кіраўнікам Уладзімірам Ксеневічам (баявая мянушка — Грач). Сюды з баявых паходаў вяртаўся сам атаман «ЗД» Вячаслаў Адамовіч — Дзяргач. Наездамі з'яўляліся «незалежныя» атаманы, імёны якіх былі вядомыя па абодва бакі мяжы. Накшталт Цімохі Хвядашчэні, права за якім на усебеларускую славу прызнавала нават упраўленне выведкі Заходняга фронту Чырвонай Арміі. Частымі гасцямі ў штабе былі і саюзнікі «ЗД», прадстаўнікі «Народнага саюза абароны радзімы і свабоды». Арганізацыя Савінкава спрабавала мабілізаваць незадаволенае саветамі сялянства на агульнае паўстанне.

Жыццяпіс Ганны Доўгерд да 90-х гадоў мінулага стагоддзя хаваўся ў стосах крымінальных спраў розных спецсховішчаў, і дастаць яго адтуль было вельмі няпроста. Дакумент па справе «Прыгажуні» (мянушка Ганны па агентурнай распрацоўцы) — так званая агентурная запіска за подпісам О.К.З. — даволі падрабязна намаляваў недалёкае мінулае разведчыцы і яе маральнае аблічча. «Прыгажуня» прыбыла ў Мінск непасрэдна ад Савінкава — той яе ведаў асабіста.

Пры Керанскім дзяўчына жыла ў Кіеве, дзе пасля кастрычніцкага перавароту яе бацьку і брата расстралялі бальшавікі. Пасля гэтага яна ўцякла, працавала ў падполлі, пры ўзнікненні ва Украіне махноўшчыны служыла ў атрадзе Змітра Сакалоўскага (дарэчы, пасля яго гібелі аддзел узначаліла яго сястра), потым перайшла ў армію Пятлюры. Была інтэрнаваная ў Польшчу, працяглы час пакутавала без прытулку, а потым паступіла на службу да Савінкава і ў «Зялёны Дуб».

Гераіня чапляе не толькі сваёй маладосцю (20 гадоў) і прыгажосцю, але і больш сур'ёзнымі рэчамі: выбарам каштоўнасных арыенціраў і, як сёння б сказалі, высокім узроўнем выканання свайго прафесійнага і грамадзянскага абавязку. Разам са сваім заручоным Вячкам Адамовічам, вядомым атаманам антысавецкай партызанкі Дзергачом, марыла пра вольную незалежную Беларусь. Яе ахвярнасць у немалой ступені грунтавалася на каханні, — гэта часта бывае ў жыцці жанчыны, якая ў палітыку прыходзіць услед за сваім каханым.

Крымінальная справа Доўгерт інфармуе, што яна — «дэмакратка» па палітычных перавагах (сама так заявіла падчас допыту), па прафесіі — агент выведкі. У апошніх характарыстыках крыецца прычына такой доўгай непрысутнасці ў беларускай гісторыі. Жыццёвая актыўнасць Ганначкі віравала ў рэчышчы антысавецкага партызанскага, «зялёнага руху», дакладней сказаць — вайны з лесу.

Апошні шлях партызанкі акуратна адсачылі чэкісты, а следчы ВЧК Ігнацый Антонавіч (Іцка Янкелевіч — сапр.) Візнер падрабязна занёс у крымінальную справу, якую ў 1990-я гады з'явілася магчымасць прачытаць.

Галоўны штаб «ЗД» займаў пакой у гатэлі «Вільня», сціплай начлежцы па адрасе Віленская, 23 (цяпер — раён старой часткі Маладзечна). Да новай дзяржаўнай мяжы — невялікая адлегласць. У кірунку Савецкай Беларусі па абодва бакі дарогі, па якой спяшалася Ганна з новым заданнем, напагатоў да узброеных нападаў стаялі атрады: у Красным (станцыя Уша) — аддзел Дзергача, у Дубрава — Антонія Касінскага (Юлія Пушкевіча), у Мігаўцы, маёнтку вядомага палітыка Уласава — каля 300 баевікоў.

Мяжу Ганна перайшла з дакументамі на імя Марыі Зайцавай у вёсачцы Крычкі. На той час гэта месца блізу станцыі Радашковічы (вёска Пятрышкі) у маладзечанскім кірунку было вельмі папулярным (як і знакаміты Ракаў) «акном» для рознага кшталту агентаў, кантрабандыстаў, спекулянтаў, гандляроў. Пад Радашковічамі яе сустрэў чалавек, які, імаверна, і здаў яе ЧК.

Адрасы ў Мінску, якімі забяспечыў сваю каханку Маню Зайцаву Дзяргач, складаюць мапу тагачаснага, так бы мовіць, Мінска-нацыянальнага, беларускага. Дамы і кватэры, куды заходзіла дзяўчына, належалі людзям, арыентаваным у сваёй дзейнасці, культурніцкай і палітычнай на беларускую справу. Паралельна існаваў і другі Мінск — горад чэкістаў, здраднікаў, агентаў, у павуцінне якіх яна і патрапіла.

У першы дзень Ганначка зайшла да Уладзіміра Тэраўскага на вуліцу Шпітальную. Гэта імя знакавае ў беларускай культуры: кіраўнік Беларускай капэлы і хору пры Старажоўскай царкве, выкладчык Беларускага педагагічнага інстытута, сябра Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта, адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускага мастацтва. Поўныя тэатральныя залы збіралі спектаклі, якія музычна аздабляў Тэраўскі. У энцыклапедычных даведніках наўрад ці знойдзецца згадка пра яго ўдзел у зяленадубскіх справах. Арышт 2 верасня 1921 года і прысуд да смяротнага пакарання потым клопатамі сваякоў і нацыянал-камуністаў Чарвякова і Ігнатоўскага быў зменены на пяць гадоў катаржнай Смаленскай турмы. Эпізод сустрэчы з разведчыцай зноў згадалі чэкісты падчас арышту кампазітара ў 1938-м, годзе татальнай сталінскай чысткі.

## Свой чалавек чэкіст Банга

Са знакамітым музыкантам Ганна пазнаёмілася ў чэрвені 1921 года. Як сведчыць пратакол допыту Уладзіміра Тэраўскага (крымінальная справа 1938 г.) сустрэча з Маняй Зайцавай (так прадставілася яму Ганна) адбылася на Старажоўскіх могілках каля Перэспенскай царквы. Падчас пахавання адной з харыстак Маня перадала Тэраўскаму прывітальную запіску ад стрыечнага брата з Наваградку. Брат прасіў аказваць дзяўчыне магчымае садзейнічанне ў яе справе. Ужо на кватэры кампазітара Маня, разглядаючы фотаздымкі, пазнала сярод харыстаў Тэраўскага свайго Вячку (Дзергача), а таксама ад'ютанта штаба «ЗД» Міколу Крывашэіна (баявая мянушка — Корч). Дарэчы, амаль усе, хто меў дачыненне да справы «шпіёнскай групы ў Мінску», так ці інакш былі звязаныя з хорам Тэраўскага і беларускім тэатрам — «Мастацтвам». Культура перадусім!

Шлях з харавой групы да арганізацыі баевікоў, як сведчыць гэты прыклад, быў вельмі кароткім. На гэты раз Уладзімір Васільевіч паведаміў госці пра «Беларускую справу» (так у тэксце пратаколу допыту). Актыўнасць, у асноўным, палягала ў галіне культуры і мовы. Але ў Тэраўскага падчас вобыску знайшлі рэвальвер «бульдог».




Программа открытия Белорусского народного дома 9 марта 1919 года. Это и есть та самая "Беларуская Хатка" на Конской площади. В программе указан концерт хора под управлением "т. Терявскаго" — Владимира Терравского.

Из протокола допроса гражданина Терравского (православный, 49 лет; при обыске найден револьвер "бульдог"):

Маруся (Анна Довгерт. — *С.К.*) случайно заметила у меня в комнате фото группы хора. Увидела Дергача, которого назвала Вячкой. Прибавила, что от него привезла мне поклон <…>

Согласно постановлению Коллегии ЧекаБел от 23 сентября 1921 г. предлагается Вам в ночь с 17 на 18 октября привести в исполнение приговор высшей меры наказания — расстрел, над следующими лицами:
1. Зайцева Мария Ивановна, она же Довгерт Анна Антоновна, обвинявшаяся в принадлежности к организации "Зеленый Дуб" и шпионаже.
2. Терравский Владимир Васильевич (вычеркнут из списка. — *С.К.*). **Расстрелян в 1938*
3. Кривошеин Георгий Викторович.
4. Кубарь Владимир Николаевич.
5. Бруевич Анна Павловна.
Об исполнении донести немедленно.

news.tut.by/society/254621.html

# Ганны Доўгерт

Тэраўскі накіраваў Ганну да свайго памочніка і суседа Кубара, які жыў у 2-м Шпітальным завулку. Там дзяўчына заначавала.

Уладзімір Мікалаевіч Кубар — яшчэ адно імя беларускай культуры, забытае не па заслугах. У 1919 годзе ён далучыўся да капэлы Тэраўскага, з гэтага часу быў шчырым і актыўным памочнікам кіраўніка хору. Пасябраваў з Дзергачом і Мікалаем Крывашэіным, якія служылі ў тэатры і капэле. Знаёмства з імі таксама абцяжарыла лес Кубара і яго сямейнікаў. Уладзімір Кубар быў адным з 4-х асуджаных па гэтай справе да смяротнага пакарання.

Раніцай 18 жніўня, пакінуўшы кватэру ветлівых Надзеі Акімаўны і Уладзіміра Мікалаевіча Кубараў, разведчыца накіравалася да яшчэ аднаго знакавага ў тых падзеях і, галоўнае, у яе планах фігуранта. Той, каму пашчасціла патрымаць міністэрскі партфель у першым урадзе Савецкай Беларусі, больш вядомы як арганізатар беларускага тэатра і артыст Усевалад Сцяпанавіч Фальскі, пражываў на вуліцы Вясёлай (раён сучаснай Першамайскай). Фальскі доўга распытваў госцю пра «ЗД» і мэты арганізацыі, згадваў добра знаёмага па сумесных пастаноўках у тэатры Дзяргача, цікавіўся яго дзейнасцю. На што Ганначка адказала, што апошні заняты «фарміраваннем атрадаў, жадае аднавіць незалежнасць Беларусі».

На допыце ў ЧК Фальскі пацвердзіць, што знаёмы з Дзяргачом. Ад яго атрымліваў лісты. Распавядзе, што столькі «быў аўтарам некаторых п'ес, падпісваўся псеўданімам Дзяргач. Палякі знялі з рэпертуару некалькі яго твораў», — згадаў Фальскі колішнюю апазіцыйнасць польскай уладзе свайго калегі». Не падабаўся гаспадару дома хаўрус зяленадубцаў з польскім генштабам. Але госця патлумачыла, што «ЗД» мае свае, таемныя ад палякаў мэты.

Фальскі сабраў для Ганны падборку савецкіх газет, якія былі каштоўнай інфармацыяй для разведкі. 3 верасня 1921 года Фальскі быў арыштаваны, палітыка напаткаў сумны лёс — ён, як і Тэраўскі, быў асуджаны на расстрэл, потым памілаваны, але ў Беларусь больш не вярнуўся.

Служачая ваеннага тэлеграфа, а потым і Штаба Мінскага раёна, — органа, які адмыслова ў чэрвені 1921 года быў створаны для барацьбы з «палітычным бандытызмам» у Беларусі — Ганна Бруевіч (аператыўная мянушка «Артыстка») была галоўным адрасатам нашай гераіні. Да яе на вуліцу Юр'еўскую Доўгерт абавязкова заходзіла за свежымі навінамі і апошнімі дакументамі.

На Старажоўцы жылі маці і брат зялёнадубца Мікалая Крывашэіна — Карча, якія былі вельмі радыя атрымаць звесткі пра свайго малодшага і падарункак, багаты па тых часах, — скураныя боты. Гасціннасцю Крывашэіных часцякам карысталася Ганна. Яны ведалі яе як Маню Зайцаву. Георгій, які меў доступ да армейскіх матэрыялаў, дапамагаў таксама ў зборы інфармацыі, што мела непапраўныя наступствы і каштавалі жыццё 27-гадоваму хлопцу.



Ігнацый Візнер — упаўнаважаны ВЧК у Бранску разам з Феліксам Дзяржынскім, 1918–1919 г. Музей сучаснай гісторыі Расіі.

Дом Адамовічаў, дзе жыў яе заручоны Вячка з бацькамі да прыходу Саветаў, абмінуць Ганна ніяк не магла. Маючы даручэнне Дзергача, у адзін са сваіх візітаў у савецкі Мінск Ганна заходзіла і да сваяка свайго каханага. Будынак №21 на Міхайлаўскай займаў з дазволу родзічаў вядомы ў Мінску доктар-псіхіятр Сямён Іванавіч Валачковіч. Яго таксама зачэпіць зяленадубская справа. Доктар быў асуджаны на два гады папраўчых работ у канцэнтрацыйным лагеры «з вывадам на месца працы... у працоўную калонію для псіхічна хворых».

У шырокай геаграфіі рухавай дзяўчыны згадваецца і тагачасны адрас ЧК Беларусі на Петрапаўлаўскай (сучасная вуліца Энгельса). Упэўненая, што чэкіст Банга — «свой чалавек», Ганна заходзіла ў будынак, асабліва не хаваючыся. Назіральная служба ЧК дала яму мянушку «Чорны». Без страху наведвала яна і кватэру прыгожага брунета. Менавіта з ім разведчыца сустракалася перад самым арыштам. 26 жніўня чэкіст Чорны і Ганна сустрэліся за Конным пляцам каля «Беларускай хаткі». Сустрэча адбылася амаль уначы, а палове на 12-ю. Філеры, якія на месцы ўжо чакалі гэту пару з 11-й гадзіны, заўважылі, што Чорны пакінуў пару белых коняў і ардынарца на Сянной плошчы, пехам пайшоў у напрамку прызначанага месца. Чорны перадаў Ганне план Мінска і патрабаваў аплату за інфармацыю. За баявыя загады па Заходнім фронце, якія пажадала атрымаць разведчыца, ён запрасіў яшчэ 50 мікалаеўскіх пяцісоценак.

Раніцай 29-га жніўня Марыя Зайцава, як засведчыў даклад аператыўніка сакрэтнага аддзела, з Дачнікам (такую мянушку чэкісты далі Георгію Крывашэіну) накіраваліся да Траецкай плошчы, каля былога земскага шпіталю развіталіся. Ганна пакінула горад, і толькі праз 18 вёрст здагадалася, што за ёй увесь час сочаць. Яе арыштавалі. Агентурныя матэрыялы былі перададзены следчаму Візнеру.

У ноч на 19 кастрычніка Марыя Зайцава — Ганна Доўгерт разам з другой Ганнай — Бруевіч — былі расстраляныя.

## Шпіён, выйдзі вон!

Вядома, што выдаў разведчыцу ЧК чалавек, блізкі да кіраўніцтва савінкаўскай арганізацыі ў Варшаве, завербаваны савецкімі чэкістамі. Яго мянушка была «Арцыбашаў». Яго Ганна сустрэла ў Радашковічах падчас пераходу мяжы ў той лёсавызначальны для яе ліпеньскі дзень 1921 года.

Большая частка грандыёзнага спектакля «Трэст» («Сіндыкат-2», «Крот» і інш.) адбылася на беларускай сцэне. Аднак «акцёрскія трыумфы» беларускіх чэкістаў мала вядомыя, хаця свае ролі ў аперацыі яны выканалі на выдатна: гулялі ў савінкаўцаў і мясцовых актывістаў — «ліберальных дэмакратаў», прадстаўлялі «сваіх людзей» у памежных службах і нават у падраздзяленнях ЧК-ГПУ.

У доўгім працэсе даследавання гэтай шпіёнскай гісторыі намаляваліся некалькі версій ідэнтыфікацыі таго самага мужчыны, сустрэча з якім так трагічна скончылася для Ганны. Першая з іх не выключае знакамітага авантурыста, памочніка Савінкава, перабежчыка Аперпута (Селянінава, Стауніца і гэтак далей). Ён быў арыштаваны ў чэрвені (па другіх даных — у траўні) 1921 года ў Мінску на кватэры Пятра Яўнзема, бацькі знакамітай спявачкі Ірмы Яўнзем, па Каломенскім завулку, але, як сцвярджаюць крыніцы, ён у гэты час знаходзіўся на Лубянцы.

Яшчэ адзін «крот» па чэкісцкай мянушцы Пётр, які «ўпісаў яркую старонку ў гісторыю знешняй выведкі СССР», глыбока, да знішчэння, «падкапаў» камітэт НСАРС у Магілёве. Менавіта ён шчыраваў тры папярэднія гады ў замежжы. Станіслаў Глінскі (ён жа Смірноў) — польскі камуніст, з канца 1920-га быў прызначаны Масквою памочнікам начальніка па агентурнай рабоце Асобага аддзела 16-й арміі. Тут трэба патлумачыць, менавіта 16-я армія выконвала функцыі галоўнага рэпрэсіўнага органа на тэрыторыі Заходняга фронту, змагалася з антысавецкім паўстанцтвам. 29 жніўня 1921 года (звярніце ўвагу на дату! Якраз перад масавымі арыштамі ў Мінску, якія пачаліся 3 верасня) Глінскі быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга за №49 за удзел у паспяховай аперацыі па ліквідацыі «савінкаўскіх тэрарыстаў» і адначасова прызначаны начальнікам Асобага аддзялення пры Беларускай ЧК.

У кіраўніцтве Саюза Савінкава і «ЗД» ведалі Станіслава Марцінавіча (пад якім прозвішчам не вядома) як чальца падпольнай антысавецкай арганізацыі «Ліберальныя дэмакраты». Вядома, што гэтыя «ліберальны дэмакрат» у раёне Слуцка сустракаўся з прадстаўніком генерала Булак-Балаховіча для абмеркавання планаў арганізацыі антысавецкага паўстання ў Беларусі і захопу Мінска ў жніўні 1921 года. Больш за тое, чэкіст выконваў ролю кантралёра ўзброеных сіл «ЗД» і Народнага Саюза, карыстаючыся перахопленымі яўкамі і паролямі, інспектаваў (!) партызанскія аддзелы. Верагоднасць, што менавіта з ім дзяўчына гуляла па Мінску і абмяркоўвала задачы падрыхтоўкі ўзброенай акцыі, вельмі вялікая. Глінскі — варшавяк па паходжанні, а ў тыя гады вельмі папулярным у дэмакратычным асяродку замежжа быў рускі пісьменнік Арцыбашаў, аўтар спачатку эратычных раманаў, а потым вострапалітычных антысавецкіх артыкулаў у газеце Савінкава «За свободу». Псеўданім мог спадабацца агенту з прэтэнзіямі на інтэлігентнасць і еўрапейскі шык.

Пасля ліквідацыі мінскага падполля Глінскі ўжо ў якасці начальніка Заслаўскага Асобага памежаддзялення працягнуў аператыўную гульню з савінкаўцамі — уключна да арышту Барыса Савінкава.

Як толькі на Лубянцы зразумелі маштабы небяспекі ў Мінску, у беларускую сталіцу зляцеліся чэкісцкія цяжкавагавікі. У Мінскім ЧК з'явіліся пасланцы з Лубянкі Ігнацый Візнер і Віктар Банга. Абодва ў гэты перыяд выконвалі абавязкі асобых упаўнаважаных ВЧК. Візнер, следчы па справе савінкаўцаў і зялёнадубцаў, вядомы ў гісторыі спецслужб як следчы па справах кранштадскіх паўстанцаў, «Петраградскай баявой арганізацыі У.М. Таганцава» (справа насамрэч была сфабрыкаваная). Ён адправіў на смерць паэта Гумілёва. Карнік не дажыў да 40 гадоў, па невядомай прычыне памёр у 1923 годзе, але ж набыў вядомасць тым, што не шкадаваў смяротных прысудаў.

Віктар Отавіч Банга граў ролю актыўнага савінкаўца, які быццам пратачыўся ў кіраўніцтва Мінскай ЧК. Раней ён служыў у аператыўным аддзеле штаба 3-га кавалерыйскага корпуса, які фарміраваўся ў Полацку ўлетку 1920 года пад кіраўніцтвам легенды Грамадзянскай вайны Гая. А ў 1921-м Банга вярнуўся ў Мінск супрацоўнікам па асобых даручэннях Асобага адзела ВЧК. Нават калі Ганну затрымалі чэкісты, яна спаслалася на знаёмства з Банга, настолькі ён быў пераканаўчым: «...За мяне могуць паручыцца... адзін чэкіст, прозвішча яго Банга, добры чалавек, актыўны, многа карысці зрабіў савецкай уладзе, непакалебімы, нават ордэн Чырвонага Сцяга атрымаў за барацьбу з бандытызмам». Магчыма, дзяўчына і віншавала «савінкаўца» з атрыманнем узнагароды. З аператыўных матэрыялаў вынікае, што з Банга Ганну пазнаёміў нехта Паўловіч. Сапраўды, ён фігуруе ў матэрыялах следства, але ў спісах падсудных па гэтай справе яго імя адсутнічае. Зайсці да Паўловіча параіў дзяўчыне Дзяргач, знаёмы з ім раней, трэба думаць, як з адным з актыўных дзеячаў тагачаснай культурнай тусоўкі.

З крымінальнай справы ўжо самога Віктара Отавіча 1938 года (адплата прыйшла праз 17 гадоў) вынікае, што ў камуністычную партыю ён трапіў па пратэкцыі земляка, латыша Вільгельма Кнорына, на той момант сакратара Мінскага савета. А да таго, як пачалася яго бальшавіцкая біяграфія, служыў у паліцыі. Можа, таму ён меў такі давер у падпольшчыкаў? Банга на допыце ў 1938-м прызнаўся ў сваёй шпіёнскай дзейнасці, што падчас нямецкай акупацыі ён быў завербаваны як агент разведкі пад мянушкай «Брудэр» («Брат»).

Разам з Глінскім ён быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга і баявой зброяй за ліквідацыю мінскага падполля. Банга затрымаўся ў Беларусі як мінімум яшчэ на тры гады на незаўважнай пасадзе начальніка памежнага аддзела ў Цімкавічах. І ўвогуле, гэтая гісторыя не дадала славы ні Візнеру, ні Банга, ні Глінскаму. Апошні таксама загінуў у 1930-я. І памяць пра чэкістаў была таксама сцёртая, як і пра нашу гераіню, імя якой загучала толькі напрыканцы 1990-х.

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ



**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць вас з тымі, у каго дзень народзінаў у жніўні.**

### 9 жніўня



53 гады споўніцца **Генадзю Адамавічу Казючыцу** — жыхару аграгарадка Лапіч. Ён быў асуджаны на два гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія») за абразу міліцыянта (артыкул 369 КК).

Адрас для лістоў: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №6. 225889, Брэсцкая вобл., Кобрынскі раён, в. Лушчыкі.

### 10 жніўня

21 год споўніцца **Яўгену Вячаслававічу Чарвінскаму** — мінчуку, які 24 лістапада быў асуджаны на два з паловай гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму па артыкуле 364 КК (гвалт у дачыненні да супрацоўніка міліцыі).



Чарвінскага абвінавацілі ў тым, што з 23 па 24 верасня ён узяў удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве на вуліцы Глебкі ў Мінску, а калі ўцякаў ад супрацоўнікаў АМАП, распыліў газавы пярцовы балончык. Вядома, што пры затрыманні Чарвінскага моцна збілі: зафіксаваныя чэрапна-мазгавая траўма і шматлікія выцятыя месцы на твары.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.



29 гадоў споўніцца **Аляксандру Івуліну** — футбалісту «Крумкачоў», журналісту Tribuna.com, аўтару Youtube-канала «ЧестнОК».

Яго, а таксама аператара Яраслава Пісарэнку затрымалі ў кватэры 3 чэрвеня. На наступны дзень журналіста асудзілі на 30 сутак адміністрацыйнага арышту паводле арт. 24.23 КаАП — нібыта за сцяг на акне кватэры. Пасля 30 сутак арышту ён на волю не выйшаў. Стала вядома, што Аляксандра перавялі ў СІЗА №1 па падазрэнні ў здзяйсненні крымінальнага злачынства па арт. 342 КК (Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак).

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

32 гады споўніцца **Мікіту Андрэевічу Траццякевічу** — байкеру з Мінска. Яго абвінавацілі ў гвалце ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі — арт. 364 КК.

Інцыдэнт адбыўся 19 верасня каля ТЦ «Еўропа», калі невядомыя сталі затрымліваць аднаго з матацыклістаў, а астатнія пачалі яго абараняць. Мікіту затрымалі напрыканцы кастрычніка ў межах распачатай па гэтым інцыдэнце крымінальнай справе. Таксама былі затрыманыя Мікіта Афанасьеў і Андрэй Іванюшын.



26 лютага ў судзе Савецкага раёна Мінска Мікіта Траццякевіч атрымаў тры гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

### 12 жніўня

65-годдзе сустрэне за кратамі **Мікалай Віктаравіч Статкевіч**. Быў затрыманы 31 траўня па дарозе на Камароўскі рынак у Мінску, дзе ён збіраўся наведаць передвыбарчы пікет Святланы Ціханоўскай. Пазней быў арыштаваны на 15 сутак. 15 чэрвеня прайшоў яшчэ адзін суд над палітыкам, які пакараў яго чарговымі 15 суткамі.

30 чэрвеня Мікалай Статкевіч павінен быў выйсці на волю пасля 30 сутак адміністрацыйнага арышту, аднак напярэдадні ўвечары жонцы Статкевіча Марыне Адамовіч патэлефанаваў следчы і паведаміў, што палітык падазраецца ў здзяйсненні злачынства па ч. 1 арт. 342 КК. 15 снежня Мікалаю Статкевічу прад'явілі новае абвінавачанне па п. 13 ч. 2 арт. 293 КК — «падрыхтоўка да ўдзелу ў масавых беспарадках». Мікалая Статкевіча ў выніку пачалі судзіць у Гомельскім СІЗА ў закрытым рэжыме.



Раней Статкевіч быў прызнаны палітзняволеным: са снежня 2010 па жнівень 2015-га. У 2005 годзе быў асуджаны на тры гады абмежавання волі за арганізацыю ў 2004 годзе вулічнай акцыі супраць афіцыйных вынікаў парламенцкіх выбараў і рэферэндуму. Па амністыі тэрмін быў скарочаны на год. Кандыдат на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года. Затрыманы 19 снежня 2010 года пасля акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў і змешчаны ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны ў арганізацыі масавых беспарадкаў і ўдзеле ў іх. 26 траўня 2011 года суддзя Ленінскага раённага суда Мінску Людміла Грачова асудзіла яго на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Адбываў пакаранне ў магілёўскай «крытай турме» і шклоўскай калоніі № 17.

Адрас для лістоў: СІЗА-3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.

51 год споўніцца **Андрэю Аляксеевічу Хранкову**. Ён быў затрыманы 30 жніўня 2020 года ў Мінску падчас нядзельнай акцыі пратэсту, а менавіта пасля валтузні, якая завязалася паміж супрацоўнікамі міліцыі і пратэстоўцамі, што спрабавалі адбіць іншага пратэстоўца — палітвязня Аляксея Чарвінскага — ад затрымання.

Андрэя абвінавацілі па арт. 364 КК — за бойку і ўдары па мікрааўтобусе міліцыі.

27 лістапада суддзя суда Ленінскага раёна Мінска Марына Запаснік пакарала Андрэя Хранкова 5 гадамі пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №1. 211440, г. Навапалацк, вул. Тэхнічная, 8.



32 гады споўніцца **Кіму Андрэевічу Самусенку** — актывісту, сябру рады грамадскага руху «Дзея». Кіма затрымалі 3 лістапада пасля вобшукаў у яго дома і доме яго маці. Следчы камітэт заявіў, што ён і яго знаёмы датычныя да ўзлому кампутарнай сістэмы Мінгарвыканкама. Акрамя гэтага, Следчы камітэт заявіў, што Кім Самусенка «з'яўляўся актыўным удзельнікам несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў на тэрыторыі сталіцы з 9 жніўня гэтага года».

Кіму прад'явілі абвінавачанні па ч. 1 арт. 342 КК і па ч. 2 арт. 349 КК (доступ да кампутарнай інфармацыі, учынены групай асоб па папярэдняй змове).

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 14 жніўня

37-годдзе сустрэне за кратамі **Міхаіл Віктаравіч Добыш** — 



жыхар Баранавічаў, да затрымання працаваў кіроўцам.

Прысудам суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы Міхаіл Добыш прызнаны вінаватым у тым, што «17 верасня 2020 года ў памяшканні прадуктовай крамы ў мэтах перашкоды законнай дзейнасці і з помсты за выкананне службовай дзейнасці супрацоўніка органаў унутраных спраў маёра міліцыі І. Міцуры здзейсніў пагрозу прымянення гвалту ў дачыненні да І. Міцуры», якая выявілася ў «псіхалагічным уздзеянні і запалохванні, падаўленні яго волі пры асабістым выказванні славесных пагроз аб прымяненні фізічнага гвалту, пры гэтым пацярпелы меў рэальныя падставы баяцца ажыццяўлення гэтых пагроз». Міхаілу Дробышу прызначана пакаранне ў выглядзе абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу тэрмінам на 3 гады.

Адрас для лістоў: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №46. 213188, г.п. Круглае, вул. Савецкая, 96.

### 15 жніўня



За кратамі сустрэне дзень народзінаў і **Віталь Вячаслававіч Шышлоў**. Быў затрыманы пасля акцыі пратэсту 23 верасня 2020 года ў Мінску. Яго са звязанымі рукамі ў лесе знялі на відэа для дзяржканалаў.

Віталя абвінавацілі ў гвалце ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі (арт. 364 КК) — за распылены ў машыне міліцыі балончык, а таксама па ч. 2 арт. 293 КК і арт. 342 КК.

Асуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1320

Падпісана да друку 05.08.2021. 8.00. Наклад 5200 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.